PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 4 (2176) Год XLIII Беласток 25 студзеня 1998 г. Цана 1 зл.

# Каляда ў Храбалах

— А як жа? Чакаем, чакаем... На тое і Бог Руздво паслаў, каб каляднікаў прымаць. А вы пра бельскіх пытаеце, пра тых, што Крыс будзе вадзіць? — упэўніваюцца прылюдныя жыхаркі Храбалоў.

У Храбалах звычайна калядуюць у першы дзень свята.

— А ўжо тыя, што на царкву калядуюць, — паясняюць жанчыны, — аж да Трох Каралёў маюць права хадзіць.

Сёння другі дзень Каляд. У Храбалах чакаюць і калядніка́ў, і тэлебачання з Варшавы.

### *Час — гэта грошы*

Згаданы ўжо Крыс — гэта Крыстафор Гліва з Бельска-Падляшскага. У Храбалах, роднай вёсцы дзядоў, Крыс вядзе сваю фірму „Крыс". Адтуль яго шырокая папулярнасць у народзе. Крыс займаецца вельмі хрысціянскай прафесіяй — сталяркай. У ягонай майстэрні вісяць дзве праваслаўныя іконы. Тут жа чакаем апошніх калядоўшчыкаў з Бельска. Галоўны завадатар групы, Дарафей Фіёнік, традыцыйна спазняецца. Дзве Каські, Мірка з флейтай, Марцін, Вася і двух Паўлаў успамінаюць папярэдні дзень, калядаванне ў Крывятычах і Моры. Усе яны звычайна полькамоўныя, але сёння стараюцца гаварыць на мове дзядоў, па-беларуску. Як свята — то свята!

У Крывятычах — чую — сустрэлі добрага гаспадара. Дзядзька, як адзіны, дадумаўся пакарміць згаладнелых наведвальнікаў. Іншы жыхар Крывятыч, Яша Багацэвіч, прыгожа, паводле традыцыйнай эстэтыкі, аздобіў ім двухрадавую гвязду. Ну і заколядавалі нямала — сем з паловай мільёна старых злотых.

Сёння калядніка́ў мае вадзіць Крыс. Ён найлепей ведае наваколле. Крыс штораз пазірае на гадзіннік.

— Для калядніка, — кажа ён, — „czas to pieniądz". Замест марудзіць, лепш маёй майстэрні паспявалі б.

### *Тэлебачанне прыехала!*

У трэцяй хаце нагнала нас каталіцкая рэдакцыя Польскага тэлебачання.

— Ma być naturalnie, uroczyście i energicznie. I koniecznie na tle tej drewnianej chaty, — патрабавалі.

На жаль, не прывезлі яны з сабой штучнага снегу. Калядпае надвор'е выпала шэрае і сырое. Да таго лупіў дождж і хлюпала балота. Гаспадары хаты з нумарам 45 аказаліся людзьмі ветлівымі і цярплівымі. Амаль дзве гадзіны прымалі тых самых калядніка́ў і паўтаралі: *Спявайце, спявайце*. У канцы пачаставалі хатняй вяндлінай, святочнымі пірагамі і напоямі. Трэба ж мець моцныя нервы, каб сцярпець трыццацітразовае вярганне тых самых калядніка́ў і іхнюю, хай сабе і найпрыгажэйшую, калядку „Добры вечар усім вам, вясёла навіна".



I я калядавала з бельскімі братчыкамі. Ach, ta magia telewizji! Многія жыхары Храбалоў хацелі таксама папасці ў праграму „Ziarno", што мела трансляваціца 17 студзеня г.г. На панадворак спадарства Гліваў збеглася палова вёскі. А з неба ліў густы, халодны дождж.

### *Больш як пятнаццаць калядак*

Брацтва праваслаўнай моладзі, бо так сябе называлі каляднікі Дарафея Фіёніка, бліскуча завучылі рэпертуар. Усе калядкі ўмелі праспяваць на галасы. Да іх дапасавалі інструменты: гармонік, флейту, дудку. І рэпертуар не абы-які, больш за пятнаццаць песень. Сярод іх агульнавядомыя: „Скінія златая", „Добры вечар тобе, пане господару", „Гэн высоко в сінім нэбі", „Учора з вячора", а таксама старажытныя калядкі, запісаныя ў час летніх этнаграфічных вандровак і Сустрэч „Зоркі" ды лагераў ліцэістаў.

Мне ўпершыню ў жыцці пашчасціла паслухаць старадаўнія калядкі, прызначаныя для нованароджаных дзяцей або маладой гаспадыні.

— Аж дзіва, што такія вытанчаныя творы спявалі нашы продкі, — кажу Дарку, а ён мне на тое:

— Бо мы непатрэбна думаем пра сённяшніх сялян, думаючы пра тых даўнейшых.

— А як там са шчодрасцю ў нашых людзей? — пытаю ў Паўла, скарбніка.

Аказваецца, старыя людзі нярэдка больш даюць за маладых. Звычайна па дзесяць, дваццаць злотых.

У найбліжэйшыя дні мае каляднікі збіраюцца хадзіць па Бельску, яшчэ сёння паедуць у Райск. Усе грошы, традыцыйна ўжо, пойдуць на пабудову часоўні св. Мікалая ў Бельску-Падляшскім.

### *Каляда, каляда*

У Храбалах панавала свята. Радасна зіхацелі каляровыя лямпачкі на ёлках. З-за вёскі даносіўся вясёлы смех. Гэта гарадскія госці ля вогнішча пяклі каўбаскі. Прыемна было калядаваць для вяскоўцаў румяных ад радасці святочнага застолля.

Звычайна хвалілі яны пачутыя калядкі. Часам захапляліся, як у хаце, дзе калядавалі малечы Марцінку, яго бацькам і гаспадыні. У іншых хатах сустракалі стрымана, больш з абавязку перад традыцыяй. Быў дзядзька (добра ўжо падпіты), які дамагаўся абсалютнага мастацтва. Ён востра адрэцэнзаваў наша выступленне, у якім не спадабаўся яму канец. Быў і такі, што хацеў каб спявалі ГОЛАСНА. Не забракавала і падпітых кавалераў, якія, пабачыўшы дзяўчат, пакідалі застолле і прасіліся, каб супольна ісці славіць нараджэнне Ісуса Хрыста.

Цяжка было пакідаць святочныя Храбалы. У вачах стаяў абыякавы да беларускага святкавання Беласток.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

## У нумары

# Мы прачыталі

*Gdy zamykasz oczy, masz wrażenie, że krążąca nad tobą chmura sępów zaraz spłynie w dół i zacznie skubać obolałe, twoje nie twoje ciało. Brak ci sił, by uciekać. Głowę rozsadza tępy, pulsujący ból. Światło razi, hałas drażni. Każdy gwałtowniejszy ruch przyprawia o mdłości. Choć to jeszcze nie śmierć, dałbyś wiele, by szybko powrócić między żywych. Ale to tylko zwyczajny kac...*

*Gazeta Wyborcza, nr 302 (1997 r.)*

Напісана вельмі кампетэнтна, з вялікім аб'ектывізмам і дасведчанасцю. З поўнай адказнасцю пацвярджаем, што так менавіта выглядае пахмелле, інакш кажучы „кац".

* * *

*Podnosząc ceny wódki rząd zawsze tłumaczył, że wódka jest za tania. Będzie droższa, naród będzie zdrowszy. A naród zawsze dawał sobie radę. Kiedy cena przekraczała możliwości kieszeni, wzrastała produkcja domowa. Baniaczek, cukier, drożdże — receptura powszechnie dostępna. Szara wódczana strefa zaspokaja ok. 35 proc. krajowego zapotrzebowania na trunki. Tymczasem dyrektorzy Polmosów wyliczają, że 80 proc. ceny każdej butelki wódki stanowią podatki. Zachęcają do kupowania krajowych trunków. Każda wypita butelka to pieniądze dla powodzian, anestezjologów, górników, policjantów, pułkowników...*

*Polityka, nr 1*

* * *

*Nastroje w Polsce w 1997 r. były takie jak w 1926 r., czyli w osiem lat po odzyskaniu niepodległości: znużenie sejmokracją i walkami partyjnymi, tęsknota do silnego człowieka. Na szczęście nie ma takiego na horyzoncie, ale gdyby się pojawił, miałby duże szanse objęcia władzy.*

*Gazeta Wyborcza, nr 303 (1997-1998)*

Ці Лукашызм, ці санацыя — вынік падобны. Праз 50 гадоў помнікі Лукашэнку будуць у кожным горадзе ад Брэста да Уладзівастока. У Пілсудскага меншая прастора.

* * *

*Колхоз умер! Да здравствует колхоз!*

*Згода, н-р 7*

Что вы, товарищи, колхоз умер? Он всегда жив!

* * *

*Noworoczny przegląd kadr: Krzysztof Bondaryk — jeszcze w latach 80. klepał biedę jako nauczyciel historii w Czarnej Białostockiej. Później został szefem białostockiego UOP (бяспекі). Wielbiciel Białorusinów (быццам бы захапляўся беларускай мовай падчас падслухоўвання тэлефонных размоваў).*

*

*Włodzimierz Cimoszewicz — przeżywa porażkę i popada w zapomnienie. Jedyne dobre wieści nadchodzą dla Cimoszewicza z Hajnówki. Podobno zostanie ustanowiony nowy odpust „na Wołodźki".*

*

*Siergiej Plewa — te wybory nie odsiały Plewy. Przed laty na imię miał Sergiusz. Teraz już nie wstydzi się Siergieja. Jest nawet członkiem Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Właściwie cała reprezentacja SLD z Białostockiego to Białorusini. W Sejmie zasiada prezes BTSK Jan Syczewski. Jest jeszcze Cimoszewicz, który Białorusinem wprawdzie nie jest, ale którego Białorusini uważają za Białorusina.*

*

*Jan Syczewski — długo pracował na rzecz SLD. Zasłynął z białoruskich festynów, które dofinansowuje Ministerstwo Kultury, na których politycy Sojuszu prowadzą agitację. Przed wyborami prezydenckimi Syczewski zafundował festyny Kwaśniewskiemu. Przed wyborami do Sejmu — kandydatom na posłów. SLD doceniło trud Syczewskiego i umieściło go na wysokim miejscu na liście krajowej. Tym sposobem Syczewski dostał się do Sejmu. Wielbiciel Aleksandra Łukaszenki. Na ostatnim Zjeździe BTSK dostał w prezencie od dyktatora zegarek. Trochę to dziwna zażyłość jak na działacza białoruskiego. Łukaszenko wprowadził język rosyjski jako urzędowy i zlikwidował białoruskie symbole narodowe, zdusił kulturę białoruską.*

*Kurier Poranny, nr 2*

* * *

*Tuż przed świętami Bożego Narodzenia ceny ropy naftowej na giełdzie w Londynie były najniższe od dwóch lat. Eksperci przewidują, że z powodu wyraźnego spadku popytu na ropę w Azji oraz podjęcia eksportu przez Irak niskie ceny mogą utrzymać się jeszcze przez rok. Skorzystają na tym, co oczywiste, właściciele samochodów we Francji, Stanach Zjednoczonych, Niemczech, Austrii i innych krajach o gospodarce rynkowej. Prawie wszędzie — tylko nie w Polsce. Ropa na giełdach tanieje, ale jakoś nie słychać, żeby polskie rafinerie oraz importerzy benzyn w ogóle dostrzegali to miłe zjawisko. Nabrali wody (może ropy?) w usta, bo tak im wygodniej. W ubiegłym roku powtarzali, że podwyższają cenę benzyny, ponieważ ropa na giełdach drożeje. W tym roku tanieje, lecz benzyna i tak drożeje. W naszym kraju winda jedzie tylko w jedną stronę.*

*Polityka, nr 1*

* * *

*Президент у нас, как известно, заботится обо всем и всегда. То указы и декреты раздаёт, то директоров Комаровского рынка меняет. В канун новогоднего праздника его, видать, очередной творческий зуд пронял: решил о торговле для нашего с вами семейного застолья позаботиться. Минским торгам приказано развернуть торговлю шампанским. Тогда выпьем за нашу советскую молодость.*

*Беларуская маладзёжная, н-р 42 (1997 г.)*

# З мінулага тыдня

**Беларускі апазіцыянер Андрэй Саннікаў**, які ўдзельнічаў у адкрыцці інфармацыйнага цэнтра беларускай дэмакратычнай апазіцыі ў Бруселі, у інтэрв'ю для газеты „Le Soir" заявіў, што суседзі Беларусі, хаця мусяць лічыцца з Расеяй, аднак маглі б зрабіць больш дзеля абароны палітычных праціўнікаў прэзідэнцкага рэжыму. Былы віцэ-міністр замежных спраў, а цяпер эксперт па міжнародных пытаннях апазіцыйнага „ценявога кабінета" лічыць, што суседзі Беларусі праяўляюць цынізм, каб паказаць сваім грамадзянам што магло б у іх здарыцца, калі б падтрымка Захаду і працэс інтэграцыі не былі дастаткова пераканаўчымі.

**Польскія пагранічнікі** адпраўляюць назад грамадзян Расеі і Беларусі, якія да гэтай пары перасякалі дзяржаўную мяжу на падставе ваўчэраў. Датычыць гэта перш за ўсё чаўночнікаў, якія гандлююць на базарах прыгранічных гарадоў. Закон, які абавязвае ад 27 снежня мінулага года, абмяжоўвае г.зв. масавы гандлёвы турызм з Усходу. Калі на пераломе лістапада і снежня мінулага года на чыгуначным пераходзе ў Кузніцы-Беластоцкай граніцу перасякала ў сярэднім 1200 чалавек у суткі, то ў пачатку студзеня — толькі 200 асоб. Цяпер многія ўласнікі крамаў, ларкоў і аптовых складоў баяцца спынення чаўночнага гандлю, бо пагражае ім гэта банкрутцвам і беспрацоўем.

**Міністр Рышард Чарнэцкі** — шэф Камітэта еўрапейскай інтэграцыі заявіў у Беластоку, што Еўрапейская камісія выдзеліла Польшчы 40 млн. экю (154 млн. зл.) на паправу інфраструктуры ўсходняй граніцы Польшчы, у тым ліку і польска-беларускай мяжы. „Усходняя граніца Польшчы, — сказаў міністр, — праз некалькі гадоў стане ўсходняй граніцай Еўрапейскага Саюза. У інтарэсах ЕС ляжыць тое, каб рабіць капіталаўкладанні ў ахову гэтай мяжы. Еўрасаюз менавіта баіцца, каб Польшча не стала адкрытай брамай, цераз якую будуць уваходзіць на тэрыторыю ЕС грамадзяне ўсходніх дзяржаў". На працягу бліжэйшых пяці гадоў Польшча атрымае фінансавую дапамогу ў памеры 2,5 млрд. экю.

**Федэрацыя маладых Уніі працы** патрабуе ўвядзення ў школы ўрокаў сексуальнага выхавання. Федэрацыя сарганізавала перад будынкам Міністэрства нацыянальнай адукацыі дэманстрацыю. Маладыя людзі прынеслі з сабой у якасці „навуковых дапаможнікаў для міністра" куклу бусла і некалькі дзесяткаў галовак капусты, якія сімвалізуюць прапанаваныя правячай кааліцыяй метады вядзення занняткаў па сексуальным выхаванні. Перад міністэрскім будынкам пікетчыкі пабудавалі з капусты помнік і завяршылі яго буслінай статуэткай.

**Паліцыянты з Бельска-Падляшскага** даказалі дзевяці асобам актыўны ўдзел у разбіванні вітрын у магазінах, крадзяжах і пашкоджанні двух паліцэйскіх аўтамабіляў падчас народнага гуляння ў апошнюю ноч мінулага года ў цэнтры горада. Наймалодшы абвінавачаны мае 15, а найстарэйшы — 18 гадоў, а ў іх ліку ёсць яшчэ 18-гадовая дзяўчына. Шэсць хуліганаў вучацца, а два — працуюць. Злачынцы, прымяняючы перш за ўсё бутэлькі з-пад шампанскага, нанеслі шкоду ў памеры 9 тысяч злотых.

**Тры параненыя асобы** і два пашкоджаныя аўтобусы — гэта вынік бойкі паміж балельшчыкамі пасля баскетбольнага матча каманд „Влукняж" Беласток і СТК Старахавіцы. Вечарам група 30 фанатаў беластоцкай каманды атакавала балельшчыкаў СТК і абкідала іх аўтобусы камянямі і цэглямі. Пашкоджанні шыб і кузаваў ацэнены на звыш 2,5 тысячы злотых.



# Весткі з Беларусі

**Ушчыльненне граніцы**

Складанае становішча, якое ўзнікла на ўсходняй мяжы Польшчы ў выніку абмежаванняў на ўезд сюды грамадзян шэрагу краін былога СССР, што ўводзіцца польскімі ўладамі, стала прычынай для афіцыйных нот, уручаных польскаму Міністэрству замежных спраў пасольствамі Расеі і Беларусі ў Варшаве. У гэтых дакументах ідзе гутарка аб мерах, якія ўводзяцца зараз у сувязі з прыняццем у Польшчы новага закону аб іншаземцах. Афіцыйная Варшава тлумачыць свае дзеянні тым, што ў краіне ўводзіцца больш строгі парадак афармлення і выдачы запрашэнняў іншаземцам, а таксама прад'яўляецца новае патрабаванне да так званых „турысцкіх ваўчэраў", па якіх прыязджалі сюды перш за ўсё гандлёвыя госці.

**Меншы ўзнос**

У ходзе 52 сесіі Генеральнай асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прынята новая шкала выплаты ўзносаў у бюджэт гэтай буйнейшай міжнароднай арганізацыі. Згодна прынятай формуле стаўка ўзноса Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН значна памяншаецца. У выніку перамоў па змяненні метадалогіі і пабудовы шкалы ўзносаў Беларусь атрымала магчымасць зэканоміць за 1998 і 1999 гады прыкладна 4 млн. долараў ЗША.

**СНІД пашыраецца**

Мінулы год, на жаль, не змяніў сітуацыю са СНІДам на Гомельшчыне. Колькасць вічінфіцыраваных дасягнула ўжо амаль паўтары тысячы. Аднак, на думку медыкаў, заражаных смяротнай інфекцыяй у раёне значна больш, прычым яны ёсць практычна ва ўсіх гарадах і раёнах вобласці. Большасць хворых — наркаманы ва ўзросце 18-25 гадоў. Зафіксавана дзесяць выпадкаў заражэння падлеткаў да 14 гадоў. На Гомельшчыне ад вічінфіцыраваных маці нарадзілася 17 дзяцей, заражаных вірусам СНІД.

**Больш віна, менш рыбы**

Пакупная здольнасць беларусаў узрасла летась удвая. Па даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, насельніцтву рэспублікі прададзена тавараў і аказана платных паслуг праз усе каналы рэалізацыі больш чым на 145 трыльёнаў рублёў. Большасць беларусаў аддае перавагу куплі тавараў на рынках. Рознічны тавараабарот апошніх, уключаючы рэчавыя рынкі, павялічыўся ў параўнальных цэнах на 29%, а гандлёвых прадпрыемстваў — на 13%. Беларусы сталі спажываць на 1% больш мяса, на 2% — малочнай прадукцыі, на 25% — сыру. На 5% павялічылася рэалізацыя піва, на 23% — лікёра-гарэлачных вырабаў, на 46% — віна. На 4% і 3% адпаведна скарацілся продаж масла і алею, на 11% — цукру, на 18% — рыбы.

**Чалавек года**

Чацвёрты раз у рэспубліцы прысвойвалася званне „Чалавек года", якім адзначаецца ўклад у развіццё культуры. Нядаўна ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета адбылося ўшанаванне лаўрэатаў 1997 года і ўручэнне прэмій за духоўнае адраджэнне. Сярод узнагароджаных: Міхаіл Дрынеўскі — кіраўнік хору імя Цітовіча, Мікалай Кузьміч — мастак, Барыс Луцэнка — мастацкі кіраўнік Рускага тэатра імя Горкага, Таісія Міронава — мастацкі кіраўнік хору хлопчыкаў пры Менскім епархіяльным упраўленні Беларускай праваслаўнай царквы, Міхаіл Расолаў — расейскі пісьменнік. Указам прэзідэнта Лукашэнкі прэмія за духоўнае адраджэнне 1997 года ўстаноўлена ў памеры ста мінімальных заработных плат.

**Наступ фальшываманетчыкаў**

Нацыянальны банк Беларусі папярэдзіў аб магчымым масіраваным выкідзе на ўнутраны рынак рэспублікі падробных расейскіх грошай узору 1995 года. Фальшывыя грошы могуць выкарыстоўвацца ў ходзе абменных аперацый у рамках дэнамінацыі расейскай валюты. Прадугледжваецца, што для гэтых мэт зламыснікі будуць прымяняць спецыяльныя лялькі ў пластыкавых банкаўскіх упакоўках. У кожнай такой лялцы, што складаецца з тысячы казначэйскіх білетаў, будуць знаходзіцца па сто сапраўдных купюр з абодвух бакоў упакоўкі. Фінансавыя структуры рэспублікі ўжо даволі добра ведаюць асобныя вырабы расейскіх падпольных друкарняў, аднак з такой магутнай фальшываманетнай інтэрвенцыяй Беларусь сутыкаецца ўпершыню.

# Заваражылі публіку

**І Гарадскі агляд праваслаўных калядак Гайнаўка '98, які адбыўся 9 студзеня ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання, быў непаўторны. Упершыню столькі дзетак выступіла перад гайнаўскай публікай. Спевы наймалодшых ўспрымаліся з энтузіязмам — быў жа гэта іхні дэбют на сцэне. А вялі яны сябе вельмі прыстойна. Краналі публіку сваім шчырым акцёрствам, а дапаўненнем былі цудоўныя „гвяздачкі".**

— Выбачайце, калі буду памыляцца, але гэта маё першае публічнае выступленне на беларускай літаратурнай мове, — пачаў айцец Міхаіл Негярэвіч, настаяцель гаўнаўскага прыхода Святой Тройцы. — Жадаю вам не толькі артыстычных, але і душэўных уражанняў.

Галоўным арганізатарам сустрэчы калядлнікаў было Праўленне Гайнаўскага аддзела БГКТ, суарганізатарамі — Беларускі ліцэй, праваслаўныя парафіі, Гайнаўскі аддзел Брацтва праваслаўнай моладзі і Дом культуры. Голас узялі вядучыя — Агнешка Ярашук і Тамаш Саевіч і ўжо ведалі, што трэба рабіць гаспадарам мерапрыемства. Распачалося калядаванне.

Самыя моцныя ўражанні пакінулі наймалодшыя. Першымі калядавалі дзеткі з прадшколляў н-р 2, 4 і 5. Іх апекуны Вера Акачук, Ірэна Чурак і Мар'я Сцепанюк павінны быць рады. Іх дзеткі выступілі цудоўна. Калядка „З новым годам" паўтаралася некалькі разоў, але інтэрпрэтацыі былі непаўторнымі. Усім наймалодшым можна было б прысвоіць першае месца — хаця б за шчырасць. Аднак, журы мусіла вырашыць аб першынстве. Лаўрэатамі сталі дзеткі з прадшколля н-р 2. Праца Веры Акачук не пайшла ў пустое. Калі прыйшоў Дзед Мароз з ласункамі, не было ўжо ім да спеву.

Гледзячы на захапленне родным, хацелася б пажадаць наймалодшым, каб гэтыя канцэртныя праблескі нацыянальнай і рэлігійнай тоеснасці замацаваліся назаўсёды. Добрая нагода, каб прапанову накіраваць у бок гайнаўскіх радных ад Беларускага выбарчага камітэта і не толькі. Можа арганізуецца беларускае аддзяленне і ў гайнаўскім прадшколлі.




Дзеткі з класаў I-III звярнулі асаблівую ўвагу на сваю вопратку. Хлопчыкі выступалі ў белых кашулях з матылькамі пад шыяй, а дзяўчаткі ў белых блузачках. Гэта ж было іх непаўторнае свята. Столькі публікі, а паслухаць прыйшлі і бацькі! Некаторыя здзіўляліся, што ў іх такія здольныя дзеткі.

— Ja nie spodziewałam się, że moja córka umie tak ładnie śpiewać po białorusku, — выказала сваё захапленне адна маці.

Трэба адзначыць, што найбольш усебакова падрыхтаванымі былі вучні Пачатковай школы н-р 6. Калі публіка выслухала беларускую калядку „Учора з вячора" і пабачыла акцёрскія здольнасці вучняў класа III „ц" (глядзі здымак) са згаданай школы (рыхтавала Анна Бяламыза), не было сумнення, што яны станудь пераможцамі. Прыгожая „гвязда" і жэсты жыўцом узятыя з жыцця былі толькі дапаўненнем цудоўных галасоў. Першынства дабіліся таксама вучні Пачатковай школы н-р 2, якія калядавалі пад акампанемент акардэона. Марк Мацюка і Ян Валкавыцкі ведалі, што ў калядных выступленнях патрэбны дадатковы інструмент.

Віртуозныя спевы і непаўторныя галасы вучняў Беларускага ліцэя, якімі займаўся іх сябра Аркадзь Гаўрылюк, уразілі публіку. Воплескі толькі пацвердзілі, што нездарма сталі яны лаўрэатамі. Маху не даў і айцец Мікола Бяламызы, які падрыхтаваў на лаўрэатаў вучняў Комплексу прафесійных школ. Дасканала ведаў, што ў калядных конкурсах важны не толькі спеў. Калі на сцэну выйшаў духавы аркестр з успамянутай школы, публіка толькі ахнула. Спеў калядак стаў толькі дапаўненнем.

Дзед Мароз і вядучыя мерапрыемства не былі такімі патрабавальнымі як журы. Усіх выканаўцаў абдароўвалі яны ласункамі, а іх апекуноў — дыпломамі.

Дабрачынныя выступленні, якія дапоўнілі агляд, адбыліся 11 студзеня г.г. у Гайнаўскім доме культуры, а грошы ад продажу білетаў пайшлі на Гайнаўскі дом міласэрнасці. Перад яшчэ шырэйшай публікай выступілі ўсе выканаўцы, а лаўрэатам былі ўручаны дыпломы і ўзнагароды (па 100 зл.). Дадаткова калядавалі Гайнаўскі Троіцкі хор і хор ГДК.

**Аляксей Мароз**

*Фота Аркадзя Гаўрылюка*

**Чаромхаўскаму духавому аркестру мінула 20 гадоў!**

# Падтрымліваюць традыцыю грамадскай працы

Мінула 20 гадоў ад стварэння духавога аркестра чыгуначнікаў у Чаромсе.

— Было гэта канкрэтна 15 лістапада 1976 года, — успамінае былы кіраўнік клуба культуры „Калеяж" і душа аркестра спадар Мікалай Гарадкевіч.

— У той час у Чаромсе бурліла жыццё як у адным з важных чыгуначных цэнтраў. Многія чыгуначнікі актыўна ўдзельнічалі ў грамадскай працы на карысць свайго асяроддзя. Як заўсёды бывае ў мнагалюдных рабочых калектывах, так і ў чаромхаўскім чыгуначным, апрача аматараў спорту, знайшліся... музыканты. Неаднойчы праяўлялі яны ахвоту стварыць музычны калектыў чыгуначнікаў.

Ідучы насустрач маладым, супольна з Лявонам Ляскоўскім (тадышнім сакратаром вузлавога камітэта партыі) і Юзэфам Дубковічам, старшынёй Рады прафсаюзаў пры перавозным дэпо, надумаліся мы арганізаваць духавы аркестр.

— Як я ўжо ўспамінаў, — працягвае мой суразмоўца, — знайшліся першыя ахвотныя. Пачаткова было іх 10 (шэсць з іх ужо іграла на розных інструментах, апошнія хацелі навучыцца). Праз некалькі месяцаў далучылася яшчэ 12 асоб... Капельмайстра я знайшоў у Бельску-Падляшскім. Быў гэта Казімір Блашкевіч. І так, мы пачалі праводзіць першыя рэпетыцыі. Збіраліся два разы ў тыдні ў „Калеяжу". У нашым рэпертуары апынуліся пахавальныя і вясельныя маршы ды лёгкая музыка (тое, што якраз патрабавала асяроддзе). Рэпертуару падрыхтавалі на гадзіну часу. У канцы васьмідзесятых гадоў Чаромхаўскі аркестр праходзіў свой крызіс. Пасля адыходу капельмайстра Казіміра Блашкевіча спатрэбіўся іншы. Пасля доўгіх пошукаў я знайшоў яго ў Гайнаўцы. Гэта быў Юзэф Коркус.

— Раней я працаваў у гайнаўскім „Лесьніку", — гаворыць спадар Коркус. — Калі ў верасні 1989 года аркестр у „Лесьніку" распусцілі, я пачаў працаваць капельмайстрам у калектыве прафесійных школ у Гайнаўцы. Якраз трапіў на добры момант, бо дырэкцыя школы шукала адпаведнага кандыдата для вядзення свайго аркестра. Не адмовіў таксама Мікалаю Гарадкевічу, які тады знаходзіўся ў безвыходным становішчы. Так, што цяпер працую на „два фронты". Палюбіў я Чаромхаўскіх чыгуначнікаў-музыкантаў. Гэтыя людзі падтрымліваюць традыцыю грамадскай працы ў чыгуначным пасёлку. Гэта самаахвярныя людзі, сапраўдныя сейбіты культуры. Наш аркестр зараз „адмаладжаны", налічвае 32 асобы. Узрост членаў у сярэднім 25—30 гадоў. Але знайшлося і пяць пенсіянераў-ветэранаў, якія не могуць развітацца з намі. І за гэта належыцца ім пашана!

Калі цэнтральная дырэкцыя ПКП перадала клуб культуры „Калеяж" у карыстанне мясцоваму самаўраду на гмінны асяродак культуры (як вядома, па эканамічных прычынах, у рамках рэструктурызацыі), аркестр вымушаны быў знайсці сабе новую сядзібу. Таму ахвотна згадзіўся з прапановай спадара Анатоля Аніщчука, тадышняга начальніка прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу, перасяліцца ў іх будынак.

Нядаўна над чаромхаўскім чыгуначным аркестрам павісла пагроза ліквідацыі (зноў па эканамічных прычынах). Дзякуючы аднак стойкасці ўсіх чаромхаўскіх прафсаюзных арганізацый і зразуменню кіраўніцтва Беластоцкага прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу, а перад усім яго дырэктара, праблема канчаткова вырашылася на карысць музыкантаў. Спадар дырэктар заявіў (пасля таго, як асабіста пачуў канцэрт аркестра ў Беластоку), што зараз чарамшукі будуць прадстаўляць цэлы паўночна-ўсходні рэгіён чыгуначных прадпрыемстваў. Гэта вялікі гонар капельмайстру Юзэфу Коркусу і ўсяму аркестру.

У ліпені мінулага года сабраліся члены аркестра, арганізатары калектыву і кіраўніцтва найважнейшых устаноў Чаромхі, каб адзначыць свой спознены 20-гадовы юбілей. З увагі на паводку, якая наведала нашу краіну, мерапрыемства было сціплае. Пры чарцы шампанскага былі тосты і... успаміны, успаміны. Хацелася б і мне ўзнесці тост на старонках „Нівы" і пажадаць юбіляру поспехаў на новае 20-годдзе працы.

**Уладзімір Сідарук**

# Нашы мястэчкі і вёскі

**Стары Корнін**

Выводзіць ён свой пачатак ад вёскі Карнянкі, якая трыста гадоў таму знаходзілася каля Тафілаўцаў, 2,5 км ад сённяшняга месцазнаходжання. Калі ў тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца Стары Корнін, паставілі першую царкоўку, тады людзі з Карнянкі сталі перасяляцца на новае месца.

Царква св. Анны згадваецца ў архіўных дакументах пад 1632 годам. У пачатку XVIII стагоддзя ў друкаваных крыніцах упамінаецца з'яўленне цудадзейнай іконы Божай Маці і шматлікія аздараўленні перад іконай. У 1870—1882 гадах была ўзведзена другая царква — св. Міхала Архістраціга. У міжваенны перыяд царква была далучана да прыхода ў Дубічах-Царкоўных.

24 чэрвеня 1941 года гітлераўцы спалілі частку вёскі і расстралялі многіх нявінных жыхароў. Вёску адбудавалі ў пасляваенны перыяд. У вёсцы працуюць школа, пошта, крама ГСу і калгас (з 1958 года). Вёска можа пахваліцца водаправодам і вялікай колькасцю тэлефонаў.

З ліку ўзорных гаспадароў вылучаюцца мясцовыя жывёлаводы: Рыгор Тамашук, Ян Аксяньюк, Расціслаў Герасімюк, Аляксандр Германовіч, Рыгор Тамчук і Ян Аксянюк.

**Істок**

Вёска пры перасячэнні шашы з Дубіч-Царкоўных у Гайнаўку з дарогай у Стары Корнін. Вёска заснавана перад 1570 годам. Жыве ў ёй 106 жыхароў, у тым ліку 10 непаўналетніх. Прыкладным земляробам лічыцца тут Рыгор Галёнка, які займаецца вырошчваннем збожжа і бульбы.

**Ягаднікі**

Вёска распаложана непадалёк шашы, у палове дарогі з Дубіч-Царкоўных у Гайнаўку. У 1994 вёска налічвала 190 жыхароў, а сёлета — 202 (непаўналетніх тут 38 асоб). У Ягадніках многа добрых гаспадароў. Жывёлагадоўляй паспяхова займаюцца Ян Скепка, Мікалай Баравік, Ян Сурэль сын Паўла, Уладзімір Сурэль с. Дзімітрыя, Уладзімір Сурэль с. Ігната, Васіль Плева, Валянціна і Пятро Галімскія, Рыгор Назарук, Марыя Занкевіч і Ян Федарук. А Васіль Куптэль дабіўся добрых вынікаў у вырошчванні збожжа і бульбы.

**Карыцкі**

Распаложаны паабапал шашы — у палове дарогі са Старога Корніна ў Істок. Вёска паўстала да 1570 года. Цяпер жыве ў ёй 131 жыхар (у тым ліку 25 непаўналетніх).

**Міхал Мінцэвіч**

# Смутная гісторыя з гадзіннікам фірмы „Патэк”

Пан Марцін Ціхапук меў у сваім жыцці адно вялікае хобі: ён ніколі не займаўся палітыкай. Шанаваў усіх, каму пашанцавала змагацца за агульнае дабро, аднолькавай ласкай абдорваў так права-, як і леваручных і мо толькі прэзідэнтаў кахаў крыху мацней за іншых, менш выдатных змагароў. Аднак з поўнай адказнасцю за слова можна сказаць, што было гэтае каханне зусім платанічнае. Ні суседзі, ні спецыяльныя службы ў сваіх рапартах адным нават словам не згадваюць пра блізкія адносіны між панам Марцінам і палітыкамі любой арыентацыі. Нат цётка Варвара, прагуляўшыся па шырокіх прасцягах сваёй памяці, вярнулася з пустымі рукамі. Абсалютная „табуля раза”, — сказала.

Бар „Стакротка”, які ў нашым горадзе выконвае функцыю палітычнай трыбуны, усякае чуў і многае бачыў. Тут гэта мужчыны пасылаюць на сметнік свае зношаныя партыі, ствараюць новыя, сшываюць урадавыя кааліцыі, каб пад раніцу распароць усё, з вялікімі цяжкасцямі сшытае і адступіцца ў апазіцыйныя траншэі. Тут каментуецца кожны няўдачны ход нашых міністраў, а наяўныя афёры, як і іхнія бацькі, атрымоўваюць належнае сабе імя. Калі б той ці другі міністр пачуў закіды, якія ў яго адрас кіруе бар „Стакротка”, зараз жа схадзіў бы ў адпаведны магазін, дзе прадаецца доўгая і кароткая зброя і сказаў бы: „Дайце мне пісталет, мой гонар — патаптаны!”

А калі б яму не захацелі прадаць пісталет — напрыклад — з-за слабога псіхічнага здароўя, папрасіў бы гэты пісталет у свайго сакратара або найлепшага калегі. Мо паспеў бы яшчэ напісаць развітальны ліст, падтрымаць у цяжкай хвіліне маладую ўдаву і малалетніх дзетак-сірот, а потым ба-бах! і — на суд гісторыі. Усе людзі гонару — а ў нас толькі такія ідуць у палітыку — заўжды пускаюць сабе кулю ў галаву, калі над іхняй рэпутацыяй збіраюцца чорныя хмурыны.

Пан Марцін Ціхапук ніколі не сказаў ніводнага слова, якое завяло б нейкага палітыка ў магазін з пісталетамі. А гэта не абы-якая заслуга.

Бар „Стакротка” — адзінае ў свеце месца, дзе партрэты пана Пілсудскага і пана Леніна, і іншых яшчэ, усім вядомых паноў, глядзяць на сябе і не махаюць кулакамі і зубамі не скрыгочуць, а толькі па-сяброўску ўсміхаюцца. Адзін аднаму і кліентам.

Калі вам падабаецца пан Ленін, можаце прысесці так, каб добрыя вочы правадыра Кастрычніцкай глядзелі ў ваша аблічча. Калі вы аматар пана Пілсудскага — сядайце і спажывайце сваё піва разам з панам Камендантам.

А пан Марцін перш за ўсё паважае шчыры позірк пана Лукашэнкі і гэта ягонае неаспрэчнае права.

У кожнага госця, які наведвае бар „Стакротка”, свае сімпатыі і антыпатыі, і толькі мухі, якім не пашанцавала ўтапіцца ў жоўтым бяздонні, з аднолькавай пашанай кладуць чорныя пункты на ўсіх, без выключэння, партрэтах. Вусы Пілсудскага, барада Леніна, замаскіраваная лысіна Лукашэнкі — ганарацца гэтымі пунктамі, як генералы пасля пераможнай вайны ганарацца бліскучымі медалямі, а радавыя салдаты — свежымі, яшчэ ружовымі шрамамі. Сурова абыходзіцца свет са сваімі ўлюбёнцамі: людзі ім пляскаюць і б’юць паклоны, а іншыя зямныя кватаранты — робяць, што каму падабаецца.

Чаму нявінныя праявы мушынай творчасці прыняў пан Марцін як абразу — яго салодкая таямніца. Вядома адно — глядзець на такую разбэшчанасць ён не змог: чалавек вось стараецца, бярэ ў пазыку валасы з-за левага або правага вуха, прыхарошвае гэтай пазыкай сярэдзіну галавы, а потым абы-якая муха псуе вынік ягонай працы!

— Пане Юрка, — вуснамі Марціна Ціхапука прамовіў жаль, перамешаны з грамадзянскім пачуццём абавязку, з сорамам за некультурнасць мушынага роду, са злосцю і хто ведае з чым яшчэ.

— Пане Юрка...

Тым часам побач прылаўка сфарміравалася чарга з трох асобеняў, невялікая, але і дастаткова доўгая, каб даць пану Марціну час для абдумання нецікавай сітуацыі. Папярэдняя ўлада на тое і вынайшла бясконцыя чэргі, каб гарачым галовам быў час і месца астынуць і задумацца. І калі ўжо астылі распаленыя мазгавешкі, дык першае што прыдумалі — памяняць чаргатворчую ўладу. Адным словам — вынік з’еў прычыну.

Абдумаўся і пан Марцін. Яму прыпомніўся вядомы з літаратуры выпадак, калі неасцярожны сказ — „А мухі абасралі пана імператара” — давёў зусім непалітычнага чалавека ў рады наскрозь палітычных вязняў.

— Я слухаю вас, — Юрка Басэвіч, законны ўласнік гэтага інтарэсу, справіўся з чаргой з трох асоб і аддаваў свой час і сваю асобу ва ўладанне пана Марціна. А пан Марцін — падумайце толькі — мог сказаць: „Я пратэстую супраць таго, каб мухі сралі на лысіну майго прэзідэнта!” Мог ён таксама і гукнуць: „Гэта скандал! Я аддам вас пад суд!” Такое вось мог сказаць пан Марцін. А ён прамовіў: „«Дайліды» з сокам, як заўжды”.

Сказаў гэта з лёгкасцю чалавека, які прыведзены да спакушэння, астаткамі волі перамог нячыстую сілу.

А піва ўсё-такі не пайшло. Нячыстая сіла, бы той пажар у тарфяніку, лакалізаваны — здаецца — і аваладаны, а тут раптам выпаўзае з-пад зямлі і пякучым дымам дзярэ за вочы, душыць лёгкія, забівае дыханне. Запэцканая лысіна пана прэзідэнта гэтак сама прыцягвае зрок, як дзяўчына ў кароткай спадніччы, калі яна сядзе побач і закіне нагу за нагу. І дарма розум асцерагае: „Не глядзі!”

Адзін мяснік з нашай вуліцы так калісьці заварожыўся лыткамі сваёй маладзенькай памочніцы, што ненаўмысна адрэзаў усе пяць пальцаў левай рукі і прапусціў іх праз машынку, якая запіхала кілбаснае мяса ў папяровую кішку, а сваю памылку прыкмеціў толькі тады, калі прыйшлося зашнураваць чаравікі. Бедны пан Зязюля басаногі падаўся шукаць свае, гэтаксама ж бедныя, пальцы. Хадзіў ад крамкі да крамкі і ўсё яму адказвалі: не бачылі, не чулі, не было.

Пан Ціхапук яшчэ раз глянуў у яснае аблічча пана Лукашэнкі і падумаў: „Мах або промах!” З такой думкай японскія камікадзэ ўбіваліся ў самыя высозныя хмарачосы Нью-Йорка, а пан Марцін, напляваўшы ў насоўку, наблізіўся да ўлюбёнага партрэта. Працягнуў руку высока-высока, аж з-пад рукава паказаўся самы прыгожы і самы пажаданы ў свеце гадзіннік фірмы „Патэк”. І бачылі ўсе, хто хацеў гэта бачыць, як перад вачыма пана прэзідэнта кружыць рука, узброеная ў насоўку ды прыхарошаная гадзіннікам, і як ад гэтага кружэння святлее і так ужо, сам па сабе, светлы твар. І тры пары вачэй, якія належалі мясцовым жулікам, прыліплі да гэтай рукі, і да насоўкі, а ўжо наймацней — да гадзінніка.

— Каторая гадзіна? — спытаў незнаёмы голас, калі пан Марцін павярнуў з вуліцы Першай Брыгады ў вуліцу Першай Арміі. Гэтая першаармейская вуліца перажывае якраз доўгі і цяжкі заняпад — яе асвятляюць толькі ў выхадныя дні. Калі ў звычайны, будзённы вечар, на вуліцы Першай Арміі гжэчна спытаюць вас: „Каторая гадзіна?” — не хітрыце, што вы слаба бачыце, або — што гадзіннік застаўся якраз дома, і не клічце на дапамогу выпадковых прахожых. Усё тут мае свой парадак: Богу — боскае, кесару — кесарава, а жулікам — ваш гадзіннік.

А потым можаце ісці ў паліцыю.

— Мне ўкралі гадзіннік і я дамагаюся, каб вы гэты гадзіннік зараз жа знайшлі! — запатрабаваў пан Марцін Ціхапук, выклікаючы бязмежнае здзіўленне на твары вусатага сяржанта. Сяржант, не зусім давяраючы сваім вушам, паклікаў другога сяржанта і цяпер яны, удвая большымі сіламі, стараліся зразумець, чаму гэты незнаёмы чалавек парушае іхні, гарантаваны сяржанцкай канстытуцыяй, час сузірання і задумы. Памылкі — аказваецца — няма. Чалавеку фактычна панеслі гадзіннік і ён дамагаецца, каб дзяржаўная паліцыя зрабіла сваю чорную работу.

Калі б гаворка ішла пра „Форд”, „Мерседэс” ці нейкую іншую машыну, тады кожны паліцэйскі ведае, як выпаўніць сваю прафесійную місію. „З-за невыяўлення...” справа ідзе пад сукно, і ўсё ў найлепшым парадку. „Мерседэс” не жонка, якую ўкрадзе невядома хто, дзе і калі, а цераз тыдзень звоняць вам з гатэля „Грант” і пытаюць: „Высокая бландзінка ў зялёнай сукенцы: ці не ваша ўласнасць?”

Быў на нашай вуліцы пан Сарока. Адны госці ад’язджалі, іншыя займалі іхнае месца. Словам, чалавек быў гасцінны. І вось, аднойчы гасцяваў у пана Сарокі добры сябрук. Тыдзень гасцяваў, аж ноччу сеў у машыну і паехаў, забываючы высадзіць з багажніка чароўную гаспадыню. Пан Сарока праплакаў адзін дзень, і другі, а на трэці дзень папрасіў у госці панну Анелю, і яшчэ тры дні яны плакалі ўдваіх, аж шостага дня вярнулася законная гаспадыня і на тры галасы заплакалі ад шчасця. А потым, уцякаючы ад маламестачковага каўтуна, пераехалі ў Беласток, дзе ўтраіх шчасліва жывуць, а ці доўга — час пакажа.

А „Мерседэсы” не вяртаюцца. Шукаць „Мерседэс” — тое ж, што шукаць легендарны келіх Граал, лішняя турбота.

А з гадзіннікамі цалкам іншая справа, не на колах яны і — хто ведае — мо калісьці, у будучыні, пры нечаканай ды спрыяючай нагодзе, выявіцца хранометр фірмы „Патэк”, прыдаючы бляск і славу органам публічнай бяспекі. Вось чаму не папала пад сукно справа пана Марціна Ціхапука. У свабодны час паліцэйскія фактычна прыглядаюцца нашым рукам, але дарма. Законныя ўласнікі гадзіннікаў „Патэк”, каб не трапіць у круг падазроных, сядзяць дома.

І падумаць — усяму вінаваты тры жулікі...

**Міхась Андрасюк**

# Жалезная заслона?

Пры канцы мінулага года польскія пагранічнікі пачалі ажыццяўляць новы закон аб іншаземцах. На практыцы адзінымі замежнікамі, якіх закрануў новы закон, сталі грамадзяне Расіі і Беларусі. Ім раптам, па фармальных прычынах, стала немагчымым перасячы мяжу з Польшчай. Грамадзяне Украіны, дзяржавы якая таксама з’яўляецца членам Садружнасці Незалежных Дзяржаў, могуць бесперашкодна ўязджаць у Польшчу, не згадваючы ўжо пра літоўцаў. Тлумачэнне, што гэтага патрабуе паспяховае завяршэнне працэсу ўваходжання ў еўрапейскія структуры — не надта зразумелае. Хвалі каўказцаў і іншых азіятаў могуць уліваццa ў Польшчу, абмінаючы тэрыторыю Беларусі. З эканамічнага пункту гледжання таксама зусім невядома, хто больш патраціць: палякі, беларусы ці рускія. Вядома, што сотні тысяч жыхароў усходняй Польшчы апошнімі гадамі асноўныя сродкі для свайго ўтрымання атрымлівалі з гандлю, а дакладней — продажу ўсялякага „барахла” грамадзянам Расіі і Беларусі. Адтуль зрэдку прыязджалі людзі з „таварам”, часцей — з парадачнай валютай. Таму абмежаванне прыгранічнага руху гэта таксама пабудова тамы для ручайка долараў, якія ўзмацнялі хатнія бюджэты рамеснікаў, базарных гандляроў, беспрацоўных, а таксама гмінныя касы. Аб гэтым усе ведалі, у тым і стваральнікі новага закону, але, відаць, іншыя прычыны былі тут важнейшыя чым эканамічныя.

Добра памятаю час, калі спроба выезду ў Швецыю ці Нямеччыну патрабавала парумесячнага афармлянння, усялякіх пячатак, подпісаў, дазволаў, візаў. Найчасцей быў гэта зусім патрачаны час. Сёння ў падобнай сітуацыі апынуліся грамадзяне Беларусі. З аднаго боку паліцэйска-бюракратычная структура сваёй дзяржавы, з другога — штораз новыя бар’еры з боку суседніх краін, у тым ліку і Польшчы. Зразумела, што гэтая, можа яшчэ не зусім жалезная, заслона ўзнікае па палітычных прычынах. Неўзабаве нешта прыдумаюць у Мінску і Маскве, каб яшчэ больш абрыдзіць уезд у свае краіны грамадзянам Польшчы. Заслона будзе пастаянна ўзмацняцца, а шлях з Беластока ў Гародню можа аказацца даўжэйшым, чым з Беластока ў Мадрыд. Ніштo не паказвае на тое, каб сітуацыя на польска-беларускім памежжы адмянілася ў найбліжэйшым часе. Лукашэнка аб’явіў, што будзе прэзідэнтам Беларусі не карацей чым 12 гадоў, а некаторыя ў Мінску гавораць, што хоча яшчэ змагацца за крамлёўскае крэсла. Палякі, уступаючы ў НАТО, імкнуцца даказаць, што з’яўляюцца найбольш вартасным і адданым членам арганізацыі. Магчыма, цераз нейкі час кожны, хто захоча наведаць Мінск, будзе вымушаны ісці ў беларускае ці рускае пасольства за візай, а раней — атрымаць згоду на выезд ва ўсялякіх установах, пакорліва прасіць чыноўнікаў, каб захацелі паставіць свае пячаткі. Традыцыйна вяртаецца ў такіх умовах, добра вядомая з папярэдняй эпохі, атмасфера падазронасці і шпіёнаманіі. Лёгка прадбачыць, які можа быць лёс беларускай апазіцыі. Адно толькі суцяшае — каля беларускіх ці рускіх дыпламатычных прадстаўніцтваў не будзе такіх чэргаў за візай, як цяпер перад амерыканскім пасольствам.

**Яўген Міранович**

# Семінар „Белавежы”

„Гэта манументальная праца”, — аднадушна заявілі нашы літаратары аб кніжцы Тэрэсы Занеўскай „Straźnicy pamięci. Poezja białoruska w Polsce po roku 1956”, прэзентацыі якой прысвечаны быў студзеньскі семінар Літаратурнага аб'яднання „Белавежа”. Старшыня Літаб'яднання Ян Чыквін звярнуў увагу на нетыповасць гэтай кніжкі, якая заключаецца і ў арыгінальным падыходзе да тэмы, і ў месцы ўзнікнення публікацыі: аўтарка — навуковы працаўнік Факультэта педагогікі і псіхалогіі Універсітэта ў Беластоку напісала яе як габілітацыйную дысертацыю. Тэрэса Занеўска беларускай літаратурнай творчасцю цікавіцца ўжо трынаццаць гадоў, а плёнам яе назіранняў сталі шматлікія артыкулы ў папулярным ды літаратуразнаўчым друку і тры кніжныя выданні.

У ходзе дыскусіі над кніжкай „Straźnicy pamięci” выявіліся разыходжанні ў інтэрпрэтацыі паэтычных твораў. На гэта звярнуў увагу Георгій Валкавыцкі, якога фрагмент верша „Новае” са зборніка „Рознагоддзе” разглядаецца ў публікацыі. У радках

*Ганім век, які пражыць нам выпала,*
*І ў нябесных прыдарожных снах*
*Мёданоснымі зямнымі ліпамі*
*Садзім неабжыты Млечны Шлях.*

даследчыца заўважыла міфічную структуру, якая надае кшталт паэтычнаму ўяўленню і характарызуе схільнасць паэта да перавелічэння свету. Паводле аўтара, у аснову гэтага верша лягла больш празаічная справа, а менавіта крытыка адмоўнай палітычнай з'явы нашага веку — культу асобы, і яе паслядоўнасцей. Як відаць, завуаліраваныя паэтам думкі кожны чытач раскрывае па-свойму, а з цягам часу, калі маладзейшае пакаленне перастае разумець грамадска-палітычныя нюансы мінулага, набываюць яны ў іх разуменні больш універсальнае значэнне. І ў гэтым менавіта заключаецца магія паэтычнага слова.

Пры нагодзе размовы з аўтаркай удзельнікі сустрэчы прад'явілі дзве прапановы. Першая датычыла вывучэння беларускага літаратурнага руху на Беласточчыне ў гады II сусветнай вайны. У кнізе „Straźnicy pamięci” ўпамінаецца ён усяго некалькімі абзацамі ва ўступе, калі ідзе размова пра папярэднікаў „белавежцаў”. Гэты перыяд далей застаецца белай плямай і калі раней замоўчваўся ён па палітычных прычынах, дык цяпер настаў спрыяльны час для сур'ёзнага і аб'ектыўнага вывучэння літаратурнай спадчыны таго часу. Другая прапанова датычыла вывучэння беларускай прозы ў Польшчы. Спадарыня Тэрэса Занеўска выказала зацікаўленасць апошняй прапановай і, як сама сказала, калі хопіць ёй часу і здароўя, будзе працаваць над гэтай тэмай.

**Віталь Луба**



*Сямейны здымак „белавежцаў” з Тэрэсай Занеўскай.*

*Фота Міры Лукшы*

# Канец з „Букваром”

Адна з большых праблем у навучанні беларускай мовы на Беласточчыне — гэта недахоп адпаведных падручнікаў. Усе дзеці пачынаюць вывучаць родную мову з прысланага з Менска „Буквара” Анатоля Клышкі. Гэта добры падручнік, аднак, умовы жыцця, а таксама школьныя сістэмы ў Польшчы і Беларусі розныя. Таму і менскі падручнік не заўсёды адпавядае патрэбам дзяцей з Польшчы. Таму падручнікі для польскіх школ, у якіх навучаецца беларуская мова мусяць друкавацца ў Польшчы. І не можа быць ніякага апраўдання, што малыя тыражы, што не аплачваецца, што няма каму рабіць і г.д.

Вось, толькі што выйшаў з друку ў варшаўскім Школьным і педагагічным выдавецтве прыгожы сшытак практыкаванняў па беларускай мове для другога класа „Літарынка”*. Аўтарам з'яўляецца настаўніца з Бельска-Падляшскага **Ларыса Бурыла**. Асноўная задача сшытка — навучыць дзяцей чытаць, пісаць і гаварыць па-беларуску. Варта падкрэсліць, што тэксты ў ім дастасаваныя да нашага тут жыцця — хаця б пра такія царкоўныя святы, як Каляды ці Вялікдзень. І не задоўгія яны, кніжка не перагружаная. Гэта, пэўна, дзякуючы таму, што напісаў яе настаўнік-практык, а не навуковец, які не мае нічога супольнага з працай у школе.

Перш за ўсё, сшытак знаёміць з літарамі: малымі і вялікімі, пісанымі і друкаванымі. Ля кожнай літары — кароткі, пераважна смешны вершык, да таго самыя розныя практыкаванні, якія не толькі вучаць думаць, але і развіваюць мануальную спраўнасць дзяцей. У кніжцы — патрэбная для пісання літар лінёўка, шмат гульняў, загадак, рэбусаў, рысункі для размалёўвання. І многа-многа прыгожых каляровых малюнкаў.

Такой кніжкі беларускія дзеці ў Польшчы яшчэ не мелі. Яна заступае адначасна „Буквар” і прадметны сшытак.

Шкада толькі, што гэты падручнік не быў надрукаваны да пачатку школьнага года. Напісаны быў ён ужо якіх паўтара года таму, яшчэ вясною паявілася яго заяўка і дырэктары школаў складалі на яго заказы. З тае прычыны, што выданне так замарудзілася, настаўнікі змогуць пачаць нармальную працу з ім не раней як ад верасня. Але лепш пазней, чым ніколі. Трэба мець надзею, што гэта толькі пачатак, што неўзабаве ў Польшчы будуць друкавацца новыя падручнікі па беларускай мове, сучасныя як зместам, так і формаю.

**(мв)**

*Ларыса Бурыла, *Літарынка. Сшытак практыкаванняў па беларускай мове для другога класа*, Варшава 1997.

# Легенды Беласточчыны

Пры канцы мінулага года выйшла з друку кніжка Міколы Гайдука *Легенды Беласточчыны**. З'явілася яна як вынік шматгадовай працы аўтара над даследаваннем фальклору, гісторыі і ўсяе культурнай спадчыны беларусаў Беласточчыны. Працуючы ў „Ніве”, Мікола Гайдук пераехаў уздоўж і ўпоперак усю Беласточчыну, пытаў жыхароў пра мінулае іх вёсак, мястэчак, ваколіцы. Найчасцей сапраўднай гісторыі сваёй зямлі людзі не ведалі, таму што ніхто іх гэтага не вучыў у школах. У кожнай мясцовасці захавалася аднак шмат легендаў звязаных з акрэсленым месцам, з канкрэтнымі асобамі, а нават — сапраўднымі фактамі. Гайдуковы *Легенды* — гэта фрагмент гісторыі Беласточчыны, бачаны вачамі яе, часта непісьменных, жыхароў плюс літаратурны талент аўтара.

— Пра мінулае беларускіх зямель, — піша ў прадмове Мікола Гайдук, — пісалі нашы захопнікі або тыя, хто іншым служыў, і, вядома, пісалі заўсёды не ў нашу карысць, няпраўдзіва. Легенды, калі нават не адлюстроўваюць сапраўдных фактаў, іх прычынаў і паслядоўнасцей, перадаюць праўду пра людзей, якія іх стваралі, атмасферу, у якой выраслі, гавораць пра тое, што было ім найважнейшае, і што лічылі паганым. Кожнае паданне, якое вусна пераказваецца з пакалення на пакаленне, абрастае ў дадатковыя факты, таму ніколі не вядома, якая была першапачатковая версія такой ці іншай легенды. Паказвае яна, аднак, нейкі універсальны спосаб бачання свету жыхарамі акрэсленай вёскі ці мястэчка. Гайдук прадстаўляе легенды з розных мясцовасцей, якія гавораць пра рыцараў князя Вітаўта, пра таямнічыя з'явы звязаныя з адсечанай галавой царазабойцы Ігната Грынявіцкага, пра святых і злачынцаў.

Частку сабранага матэрыялу Мікола Гайдук апублікаваў на старонках нашага тыднёвіка. Кніжнае выданне вылучаецца асаблівым зместам. Хаця чытач вандруе са стагоддзя ў стагоддзе, з мясцовасці ў мясцовасць, аднак адчуваецца там нейкая супольнасць менталітэту жыхароў нашай зямлі, незалежна ад месца і часу паходжання легенды.

**(ям)**

* Мікола Гайдук, *Легенды Беласточчыны*, Беласток 1997, сс. 144, выданне Літаратурнага аб'яднання „Белавежа”.

Міра Лукша

# Краявід

Дом стаіць, вусцішна горбіцца пад снегам,
Працягнуўшы нітку дыму з коміна да неба.
Гудзе агонь пра вышніх і зямных яднанне.
На парозе бляск ад печкі і свечак дрыжанне.
Дом песню сабе шэпча, учэплены парога,
Інакай паляцеў бы з Анёлам да Бога.
Анёл той часам носіць воблік дзеда
Ці дзіцяткі, што ўмерла, не зведаўшы хлеба.
Парог праціраe як вочы сляды тых што ступалі
І сучкі прыступак лічыць бы каралі,
Бы чоткі перабірае, ніжа пакаленні,
Гублеяцца ў ліках, ды часу не зменіць.
Забытыя жывымі, як дым той вечны ўюцца,
З кораня ў прастору мяняюцца, ткуцца,
З думкі на паперу дым стагоддзяў ліецца,
З літары бяскроўнай у гарачае сэрца.

# Вечар бардаўскай песні „Басаўка '97”

Мінулай восенню ў Варшаве адбыўся вечар бардаўскай песні „Басаўка '97”. Як і папярэдняе мерапрыемства было яно вельмі цікавае і прыцягнула ўвагу многіх студэнтаў варшаўскіх вышэйшых навучальных установаў. Прыехалі таксама госці з Беластока, Гданьска, а нават з Беларусі.

„Басаўка '97” адбылася дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і мастацтва ды прыватных спонсараў, а таксама пры дапамозе людзей добрай волі.

У праграме мерапрыемства выступілі Андрэй Валькоўскі і Лукаш Сцепанюк з песнямі гурту „Вядро” з Бельска-Падляшскага. Яны праспявалі таксама некалькі песень на матывы папулярных на Беласточчыне напеваў. Знакаміты беларускі бард і акцёр гарадзенскага лялечнага тэатра Віктар Шалкевіч праспяваў многа новых песень, хаця не забракавала вядомых ужо ягоных, так бы мовіць, класічных твораў, як хаця б гэты пра Яновічавы плот. А заспяваў бард пра яго на дзвюх мовах — беларускай і чэшскай. Выступілі яшчэ менш вядомыя, хаця не менш знакамітыя артысты. Пад канец афіцыйнай часткі адбыліся сціплыя атрасіны студэнтаў-першакурснікаў.

Потым імпрэза перанеслася на ніз славутага акадэміка-інтэрната, што па вуліцы Смычковай, дзе студэнты і іх госці танцавалі да белага рання пад гукі беларускіх мелодый.

**Юрка Шульскі**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Станіслаў **Валодзька**

### *Загадка*

Яно заходзіць нетаропка
Чырвонай шапачкай за лес.
Яго там зноўку шэрым воўкам
Спаткаўшы, хутка вечар з'есць.
(Сонца)

# Святкавалі дзеці



*Дзеткі праспявалі новыя калядкі.*

5 студзеня г.г. у беларускім прадшколлі ў Беластоку святкавалі *Вілею*. Так у наваколлі Гарадка называюць святы вечар — *Куццю*.

Дзеткі разам са сваёй новай настаўніцай рытмікі Міркай Дудай чароўна праспявалі калядкі. Думаю, што ўсім бацькам спадабаліся маленькія калядні кі. Яны завучылі невядомыя ў нас дзіцячыя калядкі „Каляда, каляда", „Тупу-тупу, туп каза". Настаўніцы прачыталі ўсім пра калядныя абрады, звычаі і народныя вераванні, звязаныя з гэтым святам.

Мамы малечаў падрыхтавалі святочнае застолле. Чаго там не было — і куцця, і боршч з вушкамі, і смажаныя рыбы, селядцы, *шчолак* з груш (кампот) і шмат чаго яшчэ — вельмі смачнага. На стале было нават больш за дванаццаць страў. Бо і людзей зышлося процьма, ледзь памясціліся ўсе за сталом.

У канцы бацькі і дзеці супольна праспявалі калядкі. Не было клопату з рэпертуарам, бо два гады таму бацькі і дзеці ладзілі сцэнічнае выступленне, звязанае з Новым годам. На Куццю прыйшлі першыя выпускнікі беларускага прадшколля, зараз навучэнцы беларускай мовы ў Беластоку.

**Калядні кі з Храбалоў**

8 студзеня ў час Каляд у Храбалах, або як там гавораць *на Рузд-во*, на вуліцы я сустрэла нямала дзяцей. Яны расказалі мне пра святкаванне.

— Учора хадзілі калядаваць і аж па трыццаць сем злотых закалядавалі. Свята захутка мінае. Так добра, калі ў вёску прыязджаюць дзеці, сябры з часоў канікул. Нярэдка і яны ідуць разам з намі калядаваць.

Каляды ў Храбалах сёлета былі надзвычай цікавымі. Сюды прыехала тэлебачанне і здымала матэрыял для маладзёжнай праграмы „Ziarno". Перадача паказалася 17 студзеня г.г.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*За святочным застоллем.*

# Дэкламатарскі конкурс

Як штогод, у нашай школе ў Дубічах-Царкоўных адбыўся дэкламатарскі конкурс (20 снежня 1997 г.). Вершы дэкламавалі вучні ад другога па восьмы клас. Усіх удзельнікаў было 29: 19 асоб з малодшай групы і 10 старшакласнікаў.

Старшынёй конкурснай камісіі быў настаўнік Славамір Кулік, а дапамагалі яму: Мар'я Казімерук, Галіна Більквіч і Веслава Млодзян. Ганаровымі членамі камісіі былі спадарства Галіна і Славамір Трашчоткі і дырэктар нашай школы Ніна Добаш-Карпюк.

Пасля выступленняў камісія вылучыла шэсць асоб. З малодшай групы I месца заваявала **Моніка Чыквін** за верш Якуба Коласа „На рэчцы зімой". II месца заняў вучань другога класа **Мар'юш Кіпрыянюк** (верш Паўлюка Пранузы „Тры абібокі"), трэцяе — вучаніца III класа **Барбара Трафімюк** (дэкламавала верш Аляксея Пысіна „Мікола").

У старэйшай групе (кл. V-VIII) лаўрэатамі сталі: на I месцы — вучань VIII класа **Андрэй Катушэўскі** (верш Яўгеніі Янішчыц „Ля ложка хворай маці"), на II — **Барбара Казімерук** (верш Пімена Панчанкі „Родная мова"), на III — **Кася Рыбак** (верш маладой паэтэсы з Беласточчыны Іаанны Масайла „Гэта ж маці").

Усе ўдзельнікі атрымалі салодкі пачастунак (шакалад) ад Бацькоўскага камітэта і магчымасць выступіць на раённым дэкламатарскім конкурсе.

**Барбара Казімерук**
**вучаніца VIII класа**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**

**Ад рэдакцыі:** Сардэчныя віншаванні ўсім пераможцам, а асабліва табе, дарагая Бася.

**Зорка**

# Мітрафан Доўнар-Запольскі

Мітрафан Доўнар-Запольскі быў заснавальнікам беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, эканамістам і этнографам, выдатным прадстаўніком беларускай навукі. Нарадзіўся ён у 1867 годзе ў мясцовасці Рэчыца Мінскай губерні. У 1894 годзе закончыў Кіеўскі універсітэт, а дзесяць гадоў пазней стаў у ім прафесарам. У 1918 годзе ўзначаліў Беларускую гандлёвую палату ў гэтым горадзе і быў адным з лідэраў беларускай дыяспары на Украіне. У 1925 г. вярнуўся на Беларусь і год працаваў прафесарам на кафедры гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля большасць свайго жыцця правёў у Маскве, працуючы ва ўсялякіх навуковых установах.

Амаль уся навуковая праца Мітрафана Доўнар-Запольскага была прысвечана вывучэнню мінуўшчыны Беларусі. Разам з Усеваладам Ігнатоўскім стварыў ён падставы беларускай гістарыяграфіі, паказаў этнаграфію, нарыс гісторыі беларускай культуры, права і гаспадаркі без палітычнага кантэксту. Яго нарыс „Гісторыя Беларусі", напісаны вучоным у 1926 годзе, у сапраўднасці дачакаўся выдання толькі ў 1994 годзе. Доўнар-Запольскі пісаў праўду пра мінулае Беларусі, а гэта было вельмі нявыгаднае камуністам. Яго першыя навуковыя аналізы паказаліся яшчэ ў васьмідзесятых гадах XIX стагоддзя. Нарысы пра беларускую вясельную абраднасць ад 1888 г. сталі пачаткам цыкла яго прац па этнаграфіі. „Юрыдычнае значэнне шлюбу на Беларусі", „Адносіны беларуса да зямлі" ці „Жаночая доля ў песнях пінчукоў" да сённяшняга дня з'яўляюцца важнай крыніцай ведаў пра духоўнае жыццё нашых продкаў. Шмат часу Доўнар-Запольскі прысвяціў даследаванням фарміравання заканадаўства на Беларусі. Аказваецца, дасягненні беларусаў у гэтай галіне былі выкарыстаны перш за ўсё суседнімі народамі — літоўцамі, палякамі, рускімі.

Калі ў 1918 г. пачала ўзнікаць беларуская дзяржаўнасць, Доўнар-Запольскі поўнасцю ўключыўся ў гэты працэс. Пасля ўпадку Беларускай Народнай Рэспублікі вырашыў служыць Бацькаўшчыне пішучы праўду пра яе мінулае.

# Міфы Старой Беларусі

**18. Зюзя**

„Зюзя на двары — куцця на стале", — кажуць старажылы-беларусы. Зюзя — бог зімы. Нашы продкі ўяўлялі яго як старога дзядка, нізкага росту, тоўстага, адзетага ў белую цёплую вопратку. У Зюзі босыя ногі і нічым не накрытая галава. У руцэ бога зімы жалезная булава. Большую частку зімы Зюзя праводзіць у лесе. Часам заходзіць ён у вёску. Сваёй прысутнасцю найчасцей папярэджвае сялян пра жорсткую зіму. Часам заходзіць дзеля таго, каб паесці куцці. Напярэдадні Новага года беларусы звычайна варылі куццю. Частку гэтай стравы клалі ў асобную талерку і пакідалі нанач на асобным стале. І хаця куцця выглядала някранутай, людзі верылі, што ёю сімвалічна падсілкаваўся Зюзя.

Беларусы сцерагліся гневу бога зімы. Калі Зюзя быў незадаволены паводзінамі людзей, ён біў сваёй булавой у пень. Тады па зямлі разносіўся магутны грукат, часам трэскалі дамы. Звычайна, калі зімой даносіўся з лесу грукат, старажылы гаварылі: „Сам Зюзя стукае, людзей ушчувае".

**Мае падарожжы**

# У афінскай таверне


*На ўзгорку Акропаль у Афінах.*

Думаю, што мае сябры і сяброўкі не ўгадалі б, дзе я танцавала на гэты раз, калі б я ім пра гэта не расказала.

Нядаўна мы з дзедам і бабуляй адпачывалі ў Грэцыі, на Пелапанесе. Было цудоўна, з гатэля па сходках мы сыходзілі адразу ў мора. І купаліся, загаралі.

Давялося нам там таксама шмат падарожнічаць і ўбачыць ладны кавалак гісторыі. Прыплылі мы ў Патру цудоўным паромам „Суперфаст", а пасля былі ў Афінах, Дэльфах, Спарце, Карынфе, ды яшчэ шмат дзе.

Я ўбачыла сваімі вачыма славуты ўзгорак Акропаль і тэатр Адэон у Афінах, сталіцы Грэцыі, была ў Дэльфах на Алімпе — сядзібе грэцкіх міфічных багоў і бачыла там каменны „пуп свету", а таксама бегала з сябрам па стадыёне, якому ўжо больш дзвюх тысяч гадоў. Мы аглядалі музеі і старажытныя амфітэатры, у якіх яшчэ і сёння адбываюцца спектаклі тэатраў з усяго свету.

Хадзіла я пасярод гэтых помнікаў старажытнасці, і цяжка было мне ўявіць сабе, што гэтыя будоўлі прастаялі тысячагоддзі і яшчэ сёння мы можам іх аглядаць.

А колькі цудоўных выспаў было навокал! Блакіт і зелень, ды жар сонца. Прыгожыя манастыры высока ў гарах, яны ўразаліся проста ў скалы.

Калі мы былі ў Афінах, наш экскурсавод сказаў, што гэта найбрыдчэйшы горад у Еўропе. Мо сапраўды — у параўнанні з Беластокам — там замала зелені і ўсе дамы нейкія шэрыя, бо фарбы выгараюць ад высокай тэмпературы (калі мы былі, было 42° С), але затое колькі тут помнікаў старадаўнасці! І вось было горача, а я сабе плавала ў басейне на даху нашага гатэля ў Афінах, а навокал мяне цвіло шмат алеандраў. Так што ў маёй памяці засталіся толькі мілыя ўспаміны.

Ну, і цудоўная была вячэра ў старой афінскай таверне ў Старым горадзе. Таверна — гэта была карчма, у якую хадзілі маракі, прыплываючы з далёкіх краін. Цяпер туды прыходзяць турысты: і замежныя, і грэкі.

Цікава выступалі гаспадары з Афін, даючы ў падарунку кожнай экскурсіі іх песню. Была песня руская і польская. Беларускай, на жаль, не было.

Грэкі — вясёлы народ. Хацелі гуляць разам з усімі. Пачалі выцягваць гасцей ад застолля на сцэну. Выцягнулі і мяне, хаця я аднеквалася. Было неяк боязна, хаця з танцам я дружу.

Танцавалі мы на сцэне грэцкія танцы. Я была ў чорнай сукенцы. Я ведала, што гэта любімы колер грэцкіх жанчын, і таму надзела яе на гэты вечар. Усе нам моцна білі брава, калі я танцавала з адным членам грэцкага танцавальнага калектыву.

Засталіся незабыўныя ўражанні.

**Адрыяна СЕМЯНЮК, вуч. VII кл. школы н-р 9 у Беластоку**

# Францыск Скарына

## *альбо Як да нас прыйшла кніга*

*(працяг; пачатак у 47 нумары за 1997 год)*

**Пергамен (3)**

З пашырэннем пергаменнай кнігі пачалі ўжываць новае чарніла. Яго выраблялі з соку чарнільных арэшкаў, што ўтвараюцца на дубовым лісці, і камедзі. Ягоныя жаўтавата-карычневыя літары больш „уядаліся" ў пергамен, і цяпер памылкі губка не змывала. Іх даводзілася саскрабаць пемзаю.

Пергамен заўсёды каштаваў дорага, яго ўвесь час не ставала. І ў сярэдніх вякі пачало практыкавацца і такое: у даўнейшым рукапісе саскрабалі стары тэкст і пісалі свой, новы. Былі распрацаваны нават спецыяльныя сродкі адбельваць рукапісы — скажам, сумесь малака, сыру і нягашанай вапны.

Нямала старарукапісаў знішчылі такім спосабам манахі. Хто ведае, колькі выдатных твораў не дайшло да нас! Праўда, сёння навука часткова ўжо ўмее прачытаць такія двайныя рукапісы: пад верхнім тэкстам „убачыць" стары, ранейшы.

Трывалае чарніла, сляды якога цяжка было вывесці, добра далося ў знакі пісцам-грабежнікам. Бо часта не памагала нішто: ні пемза, ні нават нож.

І калі вы мяркуеце, што, можа, якраз тады і нарадзілася прыказка „што напісана пяром, таго не вырубіш тапаром", то, відаць, маеце рацыю.

Затое дзякуючы такому чарнілу мы можам прачытаць нават тыя рукапісы, якія, захоўваючыся праз стагоддзі, часам трапілі ў ваду ці проста замачыліся.

Апроч успомненага чарніла ў сярэднявеччы пісалі яшчэ і сумессю адвару драўлянай кары з сажаю і камедзю. Былі і іншыя рэцэпты чарніла.

А пад канец чатырнаццатага стагоддзя ўваходзіць у абыходак і тое чарніла ці амаль тое, якім карыстаемся мы і сёння.

На памылкі (бо хто ж ад іх засцеражэцца!) у пісца быў кавалак пемзы. А загладжваўся пергамен ракавінаю.

Даўнейшая кніга была своеасаблівым творам мастацтва. Абрысы старанна выведзеных літар ткалі дзівосны ўзор радкоў. Да таго дадайце яшчэ каляровыя, размаляваныя пачатковыя літары (ініцыялы), а таксама назвы раздзелаў, розныя рубрыкі. Іх, як упаміналася ўжо, знарок выдзялялі чырвоным колерам. Між іншым, „рубрыка" паходзіць ад слова „чырвоны" (па-лацінску „рубэр").

Пачатковыя літары часта рабілі ў выглядзе кветак, птушак, звяроў — гэта таксама ўпрыгожвала кнігу.

Раздзелы адзін ад аднаго часта адасаблялі рознымі канцоўкамі ці заставкамі ў форме мудрагелістых завіткоў ці плеценага арнаменту.

З цягам часу ўсё часцей можна было сустрэць сярод тэксту і маленькія малюнкі — мініяцюры. Пазней яны займаюць нават цэлыя старонкі. Тут чытач знаходзіў часам партрэты каралёў ці багацеяў, на заказ якіх гэтыя кнігі перапісваліся. Але найчасцей то былі малюнкі да тэксту. Сёння гэтыя творы мастацтва для нас яшчэ дарагія і тым, што, бывае, толькі з іх мы можам найдакладней уявіць, якія, скажам, былі ў людзей тады вопратка, мэбля і іншыя рэчы, аб чым маўчаць самі тэксты.

***(працяг будзе)***

**Анатоль Клышка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 4

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Jazz / Żądło | | Klej / Dowcip | Kaczka / Kałuża | | | | |
| | | | | | Kalka | | Jedzenie |
| Szmata / Dzieża | | | | | | | Żniwiarz |
| | | | | | | | |
| Żyd | Biała ogniotrwała glina | | | | | | |
| | | | Omsk | | | | |
| | Upał / Usta | | | | | | |
| | | | Gatunek literacki | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 51:** заранка, раманс, гадавіна, вуж, вугор, цікавы, лірыка, ас, гулі, гараж, рад, Дамавік, навука, кніжка, аснова, нарыс.

Узнагароды — **запісныя кніжкі** — выйгралі **Марта Дэмбоўская** і **Адам Банькоўскі** з бельскай „тройкі" і **Арак Ільяшук** з Кленік.

**Віншуем!**

# *Баль у кухні*

Зэдлік, крэсла, табурэтка,
Ўслончык, столачак банкет
Ў кухні ладзілі, калі
Ўсе на баль сабе пайшлі.
Танцаваў факстрот відэлец
Па цыраце на стале.
Рондаль і гаршчок ў пакрышкі
Білі, тупаталі міскі, лыжкі...
Халадзільнік усё вурчаў,
Бо, стары, пераживаў:
Бо ні ступіш, ні падскочыш,
Калі нават вельмі хочаш!
Аж урэшце прастагнаў
І ласункі ўсе аддаў:
„Карыстайце, калі ласка:
Вось тарты, пірог і мяска,
Масла, сыр і апельсіны,
І саламі ёсць аслінае,
І кетчуп, і маянэз...
Ешце, піце, колькі ўлезе...
І станцуйце паланез!..
Я ж... ха...дзільнік старамодны.
Абы толькі ўсё у згодзе..."
І пад раніцу паснулі
Кубкі, ножыкі, каструлі...
Усюды чыста, не пазнаць.
Тут умеюць баляваць!

**Міра Лукша**



Талон „Зоркі" № 4
25.01.1998

# Спрактыкаваных людзей не пытаюць

**Гутарка з Яўгенам ГАЛАБУРДАМ, былым трэнерам першаліговых баскетбалістак беластоцкага „Влукняжа".**

***— Развіталіся вы нядаўна з пасадаю трэнера... Па сваёй волі?***

— З канцом лістапада атрымаў я ад праўлення клуба вызваленне ад пасады без выяўлення прычын гэтакага рашэння. Аргумент браку спартыўных вынікаў адпадае, бо каманда па сённяшні дзень не выйграла яшчэ ніводнага матча: пры мне прайграла пяць і мая падмена дабавіла чарговыя дзесяць.

***— А якая прычына таго, што каманда ў гэтым сезоне так здалася: грошы?***

— Прычына складаная, але найважнейшым тут элементам усё ж трэба назваць менавіта грошы. Фінансавая сітуацыя клуба не дазволіла здзейсніць арганізацыйна-вучэбную праграму, якая асноўвалася на ўтрыманні і ўзмацненні саставу. У каманду ўдалося прыцягнуць Катажыну Мілашэўскую з Варшавы — яна зараз пасля майго адыходу пераехала ў Рыбнік — і вельмі добрую баскетбалістку з Летувы Расу Крэйвітэ, чэмпіёнку Еўропы. Але што з таго, калі разваліўся асноўны касцяк каманды: адышла з Беластока трэцяя ў польскай лізе па набору ачкоў Іна Смірнова, а траўмы выключылі з ігры Анну Гедрайц і Агату Мэхлінскую. Спатрэбілася ствараць зусім новы калектыў, ладзіць спортлагеры, праводзіць трэніровачныя матчы, а на гэта ў клубе не было грошай. Калі састаў стабільны, тады гэтыя меры не так важныя, бо перад сезонам можна абмежавацца да невялікіх толькі тактычна-тэхнічных карэктур, але ў нашай сітуацыі была неабходная будова калектыву ад фундаментаў. Для прыкладу: калі пасля паўгадовай разлукі вярнуўся ў „Чыкага Бульс" Джордан, доўгі яшчэ час не мог ён зладзіць ігру са сваімі сябрамі. У нашых планах былі два лагеры: кандыцыйны і тактычны; удалося наладзіць толькі адзін. Каб новая каманда зладзілася, трэба правесці да пятнаццаці трэніровачных матчаў; мы разыгралі толькі восем. Немалаважный справай у кожнай здаровай камандзе з'яўляецца таксама змаганне ігракоў за месца ў саставе: у першай дзесятцы і ў першай пяцёрцы. А ў нас сітуацыя была разборлівая: толькі дзесяць спартсменак і выразная розніца ва ўзроўні ігры між першаю і другою пяцёркамі. І што тут трэнер можа зрабіць, калі ў яго распараджэнні толькі пяць дасведчаных ігракоў і пяць маласпрактыкаваных юніёрак.

***— А ці беластоцкія баскетбалісткі мелі „канкрэтную" матывацыю; ці ім аплачвалася іграць?***

— Я мяркую, што аплачвалася. Няма ў нас такіх кантрактаў, якія маюць перадавыя ў краіне баскетбалісткі, але частка ігракоў мае кантракты цалкам прыстойныя. Аднак калі ў камандзе ўсё наладжана, то ёсць яшчэ і дадатковыя сродкі, якіх трэба дабівацца спартыўнымі дасягненнямі, напрыклад, за выйгрышы ці за месца ў табелі. А ў нашым клубе не існаваў ніякі рэгламент такога роду прэмій, які б дазваляў трэнеру і на ўзнагароджванне, і на спаганянне — бо і такое практыкуецца — ігракоў. І яшчэ адна справа: тэрміновасць зарплат; вось клуб не заплаціў мне за чатыры месяцы і, наколькі мне вядома, ігракам таксама.

***— Фінансавыя клопаты „Влукняжа" агульнавядомыя; вось апошнім часам ад спонсарскай падтрымкі адказалася фабрыка дываноў „Агнэла".***

— Гэта прадчувалася ўжо раней. Хаця падтрымка „Агнэлы" поўнасцю не забяспечвала нашых патрэбаў, якія на гэты год складалі 5,7 старых мільярдаў, а атрымалі ўсяго 3,5; у мінулым годзе расходавалі мы амаль 4,5. Расходы гэтыя вялікія, бо тут і кантракты, і лагеры, і праезды, і ўзмацняючыя сродкі, і аснашчэнне. Для прыкладу, адна пара ігравога абутку каштуе шэсць старых мільёнаў, а адна спартсменка расходуе дзве-тры такія пары ў сезон. Падтрымка „Агнэлы" аднак дазваляла нам амаль поўнасцю кампенсаваць расходы на зарплаты баскетбалісткам і выручка ад яе дазваляла на трансферты ігракоў у каманду. Раней у „Влукняжы" ігралі толькі свае выхаванкі; некалькі гадоў таму, па маёй ініцыятыве, прыйшла да нас першая ігрок з замежжа — Бірута Салінскайтэ. Два гады таму ўвёў я ў каманду Агату Мэхлінскую, тады яшчэ юніёрку з другой лігі, якая за два гады ў нас стала пятнаццатай па набору ачкоў баскетбалісткай першай лігі. Прыняў я ў наш састаў і Катажыну Мілашэўскую, якое не хацеў ніякі другі клуб і яна сама папрасілася да нас, і даверу я ёй да таго, што пасля сёлетніх першых пяці тураў была яна на першым месцы ў лізе па набору ачкоў! Гэтыя дзве спартсменкі маглі мы прыцягнуць у каманду толькі таму, што іх рынкавая вартасць была невялікая, бо перадавы ў маштабе Польшчы ігрок патрабуе кантракт велічынёю ў пяцьсот-шэсцьсот старых мільёнаў у год, а каб каманда апынулася ў вярхах, трэба мець прынамсі тры такія баскетбалісткі. Раней ігралі ў нас спартсменкі з Усходу, але цяпер яны едуць далей на захад, бо там можна дабіцца кантракта за 150 тысяч долараў у год; Раса Крэйвітэ іграе ў нас толькі па сямейнаму разліку.

***— Калі няма грошай на трансферт ігракоў звонку, тады астаюцца ўласныя выхаванкі...***

— Кранаем тут вельмі істотную справу. Пару гадоў таму, калі „Влукняж" змагаўся за кубак Ранкеці, яго ігру заводзілі свае выхаванкі, падмацаваныя замежнымі спартсменкамі. Я ўжо тады асцерагаў, што праз дватры гады не будзе каму іграць, бо гэта ж дзяўчыны. Сямейныя, прафесійныя, жыццёвыя справы не стаяць на месцы, а ў клубе забыліся пра выхаванне падмены. Да 1989 года не было такога фіналу чэмпіяната Польшчы юніёрак ці кадэтак, у якім бы не выступалі беластачанкі, а і тады першы склад ледзь-ледзь утрымоўваўся ў першай лізе. З таго часу ўжо ніводная беластоцкая каманда не выйшла ў васьмёрку мацнейшых у краіне; цяпер яны ледзь выбіваюцца з макрарэгіянальнай зоны. І з іх трэба папаўняць першы састаў і я баюся, што пасля зыходу з першай лігі каманда не ўтрымаецца і ў другой. Цяперашнюю канцэпцыю выхавання баскетбольнай моладзі ў клубе лічу памылковай. Трэба вярнуцца да ранейшага, праверанага на практыцы супрацоўніцтва клуба са школамі. Раней настаўнікі былі звязаны з клубам не толькі эмацыянальна, але і фінансава; цяпер гэтай сувязі няма. Цяпер у клубе працуюць трэнеры, якім трэба не толькі плаціць, але і наймаць для іхніх заняткаў залы. А расходаваць гэтыя грошы можна было куды карысней. Ну але што ж зробіш, калі спрактыкаваных людзей не пытаюць...

***— Якія далейшыя вашы планы?***

— На спартыўную пенсію не збіраюся адыходзіць. З „Влукняжам" растаюся, бо хаця многа я ўклаў сэрца ў гэты клуб, але і многа прыкрасцей перацярпеў з яго боку. Збіраю прапановы ад другіх клубаў і ў недалёкай будучыні нешта вырашыцца.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксандр Вярбіцкі**

Якія мы людзі

# Выпадак

Цягнік хутка імчаўся з Прымор'я ў Беласток, а я цешылася, што хутка буду дома і што скончылася ўжо нуднае прабыванне ў санаторыі. Усё ж такі, дваццаць чатыры дні не было мяне са сваімі. Як яны там, без мяне... Пэўна, сумуюць па маіх абедах... Ды і я нарэшце нармальна з'ем, без ніякіх санаторных дыэтаў.

Радасць майго вяртання дахаты перабіла павестка, якая выклікала мяне ў гарадскую паліцыю, у аддзяленне дарожнага руху. Вядома, была там дата і гадзіна, калі мне трэба было там з'явіцца, ну, і нумар пакоя.

Ніхто не прападае за візітам у паліцыю, і ўсю мяне прашыла непакоем. Што здарылася? Яшчэ ж у маім жыцці такога „запрашэння" не бывала. Мо, дзе дарожнага падатку не заплаціла, супакойваў мяне муж.

Хаця да вызначанай даты заставалася яшчэ пару дзён, я вырашыла, не чакаючы, паехаць у паліцыю і папытацца там, у чым справа, дзе і калі я правінілася.

Сакратарка аддзялення параіла, да якога там начальніка варта звярнуцца, і запрасіла мяне прысесці ў пачакальні.

Начальнік сустрэў мяне насцярожана. Вядома, размаўляе ж са злачынцам. І я адразу зрабілася маленькай-маленькай, хаця не адчувала за сабой ніякага злачынства.

Узяўшы ў рукі пісьмо, якое я атрымала, паліцыянт пакорпаўся ў сваіх паперах і выцягнуў нейкія нататкі. А справа ў тым, сказаў ён, што вамі быў выкліканы выпадак. На пераходзе для пешаходаў вы падбілі чалавека і ўцяклі з месца выпадку. І падаў мне дату і гадзіну здарэння.

У мяне ў сярэдзіне пахаладзела. Злітуйцеся, я ж толькі ўчора вярнулася з санаторыя, у якім правяла я аж дваццаць чатыры дні! Як жа я магла падбіць кагосьці тут, калі мяне тут зусім не было?!

А вы ў санаторый ездзілі на сваёй машыне? Начальнік падаў мне нумар і марку майго аўтамабіля. Не, кажу, самаход я пакінула ў гаражы. А ключы ад машыны? Ключы, вядома, таксама. Хто яшчэ мае правы? Ну, дачка, зяць. Але ездзіць толькі зяць.

Ага, справа ясная. Паліцыянт уздыхнуў з палёгкай. А як ваш зяць выглядае? Звычайна, кажу, коратка стрыжаны, ездзіць у акулярах. Ды ён не браў маёй машыны, зразумейце, у яго ёсць свая. Зрэшты, я адразу ў яго запыталася, і ён сказаў, што маёй машынай не карыстаўся, хаця я яму дазволіла яе ўзяць на выпадак, калі б ягоная сапсавалася.

Цень прабег па твары начальніка. Пакорпаўся яшчэ ў тых запісках: гм-гм, машыну вёў мужчына з доўгімі валасамі і без акуляраў. То гэта не быў, бадай, ваш зяць.

А больш ніхто машыну ўзяць не мог, кажу я, узрадаваная. Зрэшты, я свайму зяцю веру. Калі сказаў, што не браў — дык не браў.

Ладна, сказаў паліцыянт, можаце лічыць, што справы не было. Забудзьцеся пра гэта і ідзіце спакойна дахаты. Даруем вам гэта правіненне!

Што? Правіненне? Якое правіненне?! Вы ж самі бачыце, што ані я, ані мой зяць не карысталіся ў той дзень машынай!

— Ну, так, — кажа начальнік, — але ж вось тут чорным па белым запісаны нумары вашай машыны. Але добра, я вам усё дарую і лічыце, што справы не было!

Мяне ўзяло за жывое. Дык што вы мне даруеце, кажу, калі справы не было?! Я адчуваю сябе, як вучаніца, якой настаўнік з ласкі ставіць пяцёрку, хаця ведаў у яе хапае ледзь на тройку. Ці зразумееце вы гэта?

О, у вас вялікія патрабаванні! Начальнік шчыра зарагатаў. Зразумейце і вы, сказаў ён, вось нумар гэты, нумар.

А той, хто яго запісаў, не мог памыліцца? Я не ўступала. Дык што, мне цяпер усё жыццё думаць, што мой зяць манюка? Зразумейце, кажу, і вы мяне: вы мне даруеце як бы з добрага сэрца, не будучы пераканаым у маёй невіноўнасці.

Ну, добра. Калі вы ўжо так, дык мы праверым. Але, памятайце, раблю гэта толькі для вас. Вазьму паліцэйскага, які напісаў рапарт, і прыедзем агледзець вашу машыну. Дзе яна будзе стаяць заўтра ўдзень, каля працы? Тут высветлілася, што ў паліцыі ўжо ведалі нават, дзе я працую.

Як сказаў начальнік, так і зрабіў. На другі дзень звоніць у рэдакцыю, што едуць. З паліцыйнай машыны выйшлі двое: той начальнік, з якім я гаварыла, і маладзенькі паліцэйскі, які, агледзеўшы маю машыну, сказаў са смуткам: не, тая была шэрая, а гэтая ж крэмавага колеру. Але нумары, здаецца, былі гэтыя, дадаў ён разгублена. Калі здаецца, тады, кажуць, трэба пераэкагнацца, — набрала і я самаўпэўненасці.

Начальнік перапрасіў мяне ад імя таго паліцэйскага і адпусціў яго, а мы яшчэ крыху пагаварылі.

І толькі цяпер я канкрэтна даведалася, як і што адбылося ў часе гэтага „выпадку". Малады паліцэйскі (працаваў у паліцыі ўсяго тры месяцы) ішоў на працу. Якраз пераходзіў вуліцу на „зебры", калі перад носам яму шмыгнула аўтамашына. Як гэта так, не затрымаўся перад пераходам і не пачакаў, хаця бачыў, што я пераходжу вуліцу?! Як запамятаў, так і занатаваў нумар машыны, а пасля праверыў, каму належала машына з гэтым нумарам. Хутка напісаў рапарт начальству пра гэты „выпадак", і зараз жа мне — па волі лёсу — прыслалі тую няшчасную павестку з паліцыі. Малады, яшчэ, што зробіш, уздыхнуў начальнік.

* * *

Аказваецца, памяць часта падводзіць і маладых. І гэтага факту якраз нельга выкінуць з памяці ніколі.

**Ада Чачуга**

# Страхоўка ў наручніках

Адгалоскі

Powołując się na zamieszczony w numerze 2(2174) z dnia 11.01.1998 r. artykuł Michała Mincewicza „Страхоўка ў наручніках", oraz po przeczytaniu tejże lektury, na rozmowę telefoniczną z Panem W. Łubą — redaktorem naczelnym Tygodnika, odbytą w dniu 10.01.1998 r. (w godzinach wieczornych), pragnę podzielić się z Redakcją kilkoma uwagami. Jednocześnie nadmieniam, że nie będzie to forma sprostowania insynuacji pana Mincewicza Michała, jak to sugerował pan Łuba, albowiem prostować nie mam czego. Niemniej proszę o zamieszczenie niniejszego pisma na łamach Waszego Tygodnika, albowiem najwyższy czas zwrócić uwagę na niestosowność pewnych sformułowań Autora artykułu.

1. W związku z obowiązującym mnie postępowaniem z prasą, faktycznie Autora skierowałem do rzecznika prasowego KWP w Białymstoku. Dlaczego nie zasięgnął tam informacji? Dlaczego nie zasięgnął informacji bliżej — tj. u źródła, czyli w KRP Bielsk Podlaski? Myślę, dlatego, że insynuacje Leoniuka straciłyby posmak sensacji. Gdzie jednakże rzetelność korespondenta? Przecież prawo prasowe nakłada taki obowiązek. Jednocześnie jednakże zwraca uwagę fakt bezkrytycznego Redakcji w stosunku do przyjętego do druku materiału, co tejże zarzucam. Zwracam uwagę także na fakt, iż Autor co najmniej „przeinaczył" sposób w jaki skierowałem GO do rzecznika prasowego, jeżeli zaś dysponuje nagraniem moich wypowiedzi, to na nagranie takowych nie wyraziłem zgody. Pan Mincewicz nie prosił mnie o „меркаванні", jak to pisze, a wręcz naciskał na potwierdzenie insynuacji Leoniuka, przy czym tak epizodycznej sprawy w ogóle nie pamiętałem, a Autor zasłaniał się tylko nazwiskiem rzekomego poszkodowanego.

2. Insynuator zdarzenia słowem w artykule nie wspomniał o podłożu sprawy, gdyż dla niego najważniejsza była „страхоўка ў наручніках". Przecież musiało być podłoże zdarzenia, coś, co zwróciło policyjne działania na Leoniuka. Dlaczego Autor nie sięgnął do źródeł, do podstaw? Dlaczego Redakcja na ten fakt nie zwróciła uwagi? Czy uważa Autora za nieomylnego? Dlaczego nie dotarł do kasjerki z PZU, dlaczego nie przedstawił wersji policjantów biorących udział w działaniach z ramienia KRP w Bielsku Podlaskim? Czy Redakcji również, tak jak Autorowi, było to wygodniejsze, bo przemilczenie jest złotem?

3. Przesadą i chamstwem wręcz Autora są Jego insynuacje co do rzekomych moich przekleństw w stosunku do rzekomego poszkodowanego (sytuacja w KP Orla). Przecież sam Autor pisze, że w pomieszczeniach KP była kasjerka z PZU i inne osoby, czy do pomyślenia więc w ogóle jest, by w takiej sytuacji padły jakiekolwiek wulgaryzmy? Przebarwia Mincewicz też przekaz odnośnie sytuacji... — „калі другі раз хацеў штурхнуць мяне нагой, тады сам паслізнуўся...". Tego zdarzenia w ogóle nie było, nie było takiej sytuacji. Żądam od Redakcji dotarcia do funkcjonariuszy KRP Bielsk Podlaski wykonujących za mną czynność przeszukania mieszkania Leoniuka i sprostowania tychże, wyssanych z palca, sensacji.

4. Nie wiem też skąd Wasz pismak wziął nagle tłumy ludzi w Orli, a jeżeli nawet, to kto mógł to być, czy Autora nie stać nawet na sformułowanie chociażby anonimowego przekazu jednej z tych osób?! Skoro tego nie zrobił to jest po prostu facetem gołosłownym, któremu przytakuje Redakcja.

5. Skoro, jak wynika ze słów korespondenta, tak bardzo pokopałem, zwymyślałem Leoniuka, to przecież przysługiwał mu tryb skargowy do moich przełożonych? Skoro nie wystąpił w takowym trybie dotychczas, to daje do myślenia, że tylko Autor listu namówił go wprost do usensacyjnienia zdarzenia sprzed miesięcy, bo przecież nie myślę, by Pan Leoniuk pałał do mnie jakąś nadzwyczajną miłością bliźniego, że puścił płazem takie moje „rękoczyny", czy Autora i Redakcji również i ta okoliczność nie zastanowiła? Skoro stać pana Leoniuka na upublicznianie takich bzdur, to myślę, że i wystarczyłoby mu odwagi cywilnej na formę o której wspomniałem wyżej?! Czy Autora, tak „dociekliwego", nie stać było na zadanie takowego pytania panu Leoniukowi?

6. Czy wreszcie, po otrzymaniu mincewiczowskich „sensacji" Redaktora Naczelnego Tygodnika nie zastanowiło, że to raczej doniesienie prokuratorskie niż artykuł do gazety?! Przecież ten redakcyjny materiał to z drugiej strony moralna strona pracy Policji, jej moralna odpowiedzialność za ludzi? Czy przy tym jednocześnie Autor nie zastanowił się nad własną moralnością? Czy nie zastanowił się ile krzywdy wyrządził najbliższym swoim przez rozwód z powodu własnego alkoholizmu, przez zaległości alimentacyjne sięgające kilkudziesięciu milionów? Nie piszę tego dla sensacji, chcę tylko Autorowi dać do zrozumienia, iż najpierw powinien sprzątnąć własne podwórko, później zaś zabierać się za insynuacje. Powyższe napisałem rozmyślnie, bo znam przeszłość Autora, znam jego problemy osobiste i rodzinne i nie wysysam z palca, tylko człowiek ten winien zrozumieć, że nie wolno bezkarnie przypinać ludziom łatek, które nie mają pokrycia w rzeczywistości. To co napisałem Panie Autorze artykułu powyżej jest chyba gorsze niż rzekomo „amoralny" komendant Policji w Orli. W końcu parafrazując stwierdzenie — „як у Орлі ахоўваецца парадак, мелі пераканацца некаторыя жыхары мястэчка" muszę powiedzieć, że przed laty wielu z nich na słuch miało możliwość przekonać się o instrumentalno-perkusyjnych wyczynach Szanownego Autora...! I co, Panie Mincewicz, przyjemnie to teraz Panu, czy dobrze Pan się czuje w roli odwrotnej?

Na koniec uwaga do Pana Redaktora Łuby. Ja sam wiem, to co Pan mi podpowiada, że mam prawo do sprostowania, ale Pan przecież świadomy jest, że „smród" poszedł w publikę, w nasze białoruskie środowisko, a przecież jestem osobą publiczną, nie tylko jako policjant, ale i działacz naszej kultury, znają mnie osobiście członkowie Waszej Redakcji, czy naprawdę tak trudno w tej sytuacji sprawdzić treść kalumnii Autora? Przez Wasze zaniechanie, przez brak dziennikarskiej rzetelności. Żądam opublikowania mojego pisma na łamach Waszego Tygodnika, żądam przeproszenia na jego łamach od Pana Mincewicza Michała. Z uwagi na dobro naszej „białoruskiej sprawy" nie zamierzam w stosunku do Tygodnika podejmować żadnych kroków prawnych.

Z poważaniem

**Jerzy Charkiewicz**

# Дылемы задрыпанца

Ведаеш, расстроіўся я. І думаю, папрашу цябе (ты ж больш школы маеш, то і сказ прасцей табе скласці), каб ты запісаў сёе-тое. Пры нагодзе па чарцы зробім.

А знервавалі мяне людзі. Нашыя. Ты і сам пэўна ведаеш, якая тут сітуацыя: не толькі адзін перад другім дзяцей сваіх панскай мове павывучалі, але і самі, без ніякіх, зайваняюць так. Ганьбяць роднае ажно моташна робіцца. Яшчэ не так даўно, гаўнякамі, слова сказаць па-польску не ўмелі, а пасля, ужо ў школе, з-за гэтага прадмета, па два-тры гады ў адным класе дзяжурылі, а цяперака — пагляздзі. Чэшуць гэтыя фарысейцы дзе трэба і дзе не. Тыя, хто іх слухаюць і кемяць у чым справа, мусяць мець някепскую ўцеху. Ведаеш, быў я, нядаўна, у такой крыху большай вёсцы, дзе амаль кожны хоча стаць кімсьці іншым. Абы толькі не быць тым кім ён ёсць. Разумееш. Там ля аднаго стала сядзела пяць чалавек. У сярэднім узросце, хоць бы і мы. Такія то яшчэ выхаваны бацькамі парадачна — сваю мову ведаюць ад калыскі, польскую — са школы. І вось сядзяць, размаўляюць... Як думаеш, на якой мове? Ну, пэўна, я табе замнога падказаў. А колькі з іх стараецца гаварыць, скажам, нармальна? Адна асоба? Ніводная; адна то можа і заўважае, што неяк не ўсё тут у парадку. А пра дзяцей то і не ўспамінай. Не, яны ёсць, але ўжо выключна польскамоўныя. А чуў, што павырасталі ўжо такія дзеткі, якія гневацца на бацькоў за такое пачалі. Здаецца, некаторыя, за недахоп свойскасці ў выхаванні, гатовы і па мухаедах лупцаваць. От, каб так налатошылі „starego i starą", можа другія, дрывасекі, пайшлі б па розум і закінулі б дурніцу вычвараць. Бо ці гэта нармальна, каб так цурацца свайго, бацькоўскага? Ці яны ўжо зусім сумленне загубілі? Скажы! Ці хацця крыху задумваюцца над тым што робяць? А вось — думкі. На якой мове яны ў іх складаюцца, калі такім раскольнікам даводзіцца пабываць недзе самім з сабою? Паставіў бы пляшку самай лепшай з апошняга выпуску, каб нехта растлумачыў, як гэта бывае з думкамі ў такіх спрытнюгаў-і калі, і ці наогул, яны пачынаюць думаць па-польску? Мы, ведаеш, з жонкаю, час ад часу, прыдумоўваем сцэнкі з жыцця гэткіх баўтуноў. Ой, колькі тады смеху, проста бокі зрываем. Бо ўяві сабе гэткую навапольскую парачку ў пасцелі. Яны ж там, без ніякіх, мусяць перакідацца папанску, каб простым словам не запэцкаць узнёслых хвілін. Смяешся. А мне здаецца, што і заплакаць над імі не было б лішнім. Схавацца, уцячы, прыкінуцца, забыць, яшчэ і дзяцей чужымі зрабіць — вось філасофія. Такое то і цяжка прыдумаць, а наш народ во які здольны. Пярэваратні!

У мяне таксама ёсць дзіця. І мы, з жонкаю, размаўляем з ім толькі пасвойму. А колькі нас за гэта дакаралі, угаворвалі, папракалі, смяяліся, а нават страшылі. А прыкладамі сыпалі, бесхрыбетнікі. Адна, спанелая крыху бабулька, расказвала аб тым, што яе дачка як толькі зацяжарыла, дык ужо тады інакш як па-польску з мужам ды іншымі не гаварыла. І цяпер гэтая ўжо дарослая ўнучка замужам у Афрыцы ці яшчэ далей (баба і сама не ведае). Кажаш, што ў кожнага ўласнае ўяўленне шчасця? Няхай яно праваліцца, каб я не ведаў дзе і з кім жыве мая дачка ці ўнучка і мог бачыць іх толькі на здымках. І знаеш, яно неяк так нечакана ў другі бок пайшло. Не, не дзіця. Яно нармальнае, ходзіць у школу, размаўляе і так, і так, выхавацелька нават хваліць. А „Мазурка Дамброўскага" дачка суседзяў пачала яе вучыць. Але гэта ж гімн. Мы, помню, таксама з захапленнем цягнулі яго на калідоры, быццам лепшы шэдэўр.

Ну, але што тут здзіўляцца непаслядоўнымі ўчынкамі простых людзей, калі з вярхушкі прыклады ідуць зусім недарэчныя. Ведаеш, быў я сведкам жуда сная здарэння на вёсцы, падчас святкаванняў. Прысутнічаў у іх і той, што нашай адзінай і слушнай правіць і ў Варшаву з-за гэтага дабіўся. Сядзеў, вядома, у першым радку, а за ім хлопчык гадоў пяць-шэсць. І, бядняга, нехаця тыцнуў саноўніка нагой у азадак. Мо і некалькі разоў. Што б ты зрабіў? І ён таксама — аблаяў крыху. Але папольску! І што падумаў гэты можа адзіны ў вёсцы беларускамоўны хлопчык? А што думаюць людзі, якія гэтае бачылі і чулі? Як будуць вучыць сваіх дзяцей і ўнукаў? Што, не ведаў? Хто як хто, але ён у любым месцы, разбуджаны апоўначы, павінен гаварыць па-беларуску. А ён, які прыклад дае, франт?! Што, звонку беларускі, а ўсярэдзіне... які? Ну, што пршцх, маўчыш? Тэма не падыходзіць, ці як? Думаў, ёлачка, гарэлачка, селядзец, то і пра кабетак пабалакаем. Не, браток, знай, што і сярод простых людзей ёсць такія, што сумленне не прадалі і абыякавымі не зрабіліся. Так і напішы.

Ну, давай кульнем на другую нагу, то мо яшчэ калі да нас заглянеш.

**Федзю Кавелянскага**
выслухаў
**Яўген Бялькевіч**

# А дрэвы гніюць у лесе...

Амаль штодзень еду цягнікам з Нараўкі (папраўдзе з мясцовасці Плянты, але чамусьці паўстанак назвалі „Плянта") у Гайнаўку. Праз вокны паабапал чыгункі бачу лес Белавежскай пушчы ад Сушчага Барка па Звадзецке-Пераходы і Навасады (будзе гэта недзе 10-кіламетровы адрэзак). А ў лесе колькі ж паваленых дрэў і ніхто іх не вывозіць! А ўжо колькі дрэў гніе як буралом або ўпаўшых па-старасці — асабліва на багне.

Калі б гэтую драўніну парэзаць у г.зв. „мэтры" і прадаць жыхарам навакольных вёсак на апал, грошай было б шмат. Навошта паліць у печы вугалем, якога ўжо зусім невялікія рэсурсы ў нашай краіне. Акрамя таго — ці ж не трэба быць ашчадным там, дзе гэта лёгка даецца. На Гайнаўшчыне шмат тарфянікаў, але рабіць і прадаваць торфабрыкеты пакуль што ніхто не збіраецца. Ды і попел быў бы на нашы слабаўраджайныя палі, не то што шкодны для нашага здароўя вуглевы шлак.

Прашу не зразумець мяне дрэнна, што я за тым, каб рэзаць беспашчадна ды рубіць лес. О, гэта то не! Але не магу спакойна і абыякава глядзець, калі бачу гурбы тоўтых бярвенняў, якія бутвеюць, па якіх будуць шарыць шашалі ці іншыя карэеды. Апрача таго — гэткі здаровы (?) дрымучы лес маем паказваць турыстам? Іх жа вельмі лёгка пастрашыць камарамі ды яшчэ куды лепш — напомніўшы пра страшэнна заразлівых кляшчоў! Уцякаць будуць абы далей ад дрэў. Улетку паедуць нават... на пустыню, абы не было побач дрэў. Вось яно як.

**(яц)**

# На прымусовых работах

**Анатоль БАГАЦЭВІЧ, сёння 76-гадовы жыхар Орлі, у час нямецкай акупацыі быў высланы на тры гады прымусовых работ у Саксонію, а пасля заканчэння вайны, насуперак сваёй волі, год служыў у Чырвонай Арміі на тэрыторыі Аўстрыі і Венгрыі. Пасля дэмабілізацыі 8 мая 1946 года вяртаўся на радзіму складаным шляхам — цераз Брэст.**

Была восень 1941 года. Спісак асоб, якія вымушаны былі ехаць на нявольніцкую працу ў Нямеччыну састаўляў тадышні солтыс Міхал Федаровіч. Пакінуў ён у спакоі толькі сваю сям'ю і добрых знаёмых. Некалькі дзесяткаў маладых людзей у адзін асенні дзень паехалі фурманкамі ў Бельск, а далей цягніком у Беласток. Там завялі нас у фарны касцёл, дзе мы пераначавалі. Харчаваліся мы тым, што ўзялі з дому. На другі дзень поездам даехалі мы ў Дзялдова ва Усходняй Прусіі. На станцыі выстраілі нас у дзве шарэнгі, а нямецкія гаспадары хадзілі ўздоўж шарэнгаў і выбіралі парабкаў у свае маёнткі. Я папаў у маёнтак Прускен; жыў я з іншымі рабочымі ў будынку былой польскай пагранічнай заставы. Працавалі мы пры ўборцы бульбы і буракоў паўтары месяца. Потым нам сказалі, што паедзем дадому. Пагрузілі нас у вагоны і занач завезлі ў Берлін. Днём даехалі мы ў Лейпцыг, дзе зрабілі нам лекарскае абследаванне. Усіх здаровых завезлі ў Рызу, у арбайтсамт і там баўэры зноў разабралі нас па сваіх гаспадарках. Я папаў у вёску Радэвіц да Эрнста Клінгера, у якога быў 42-гектарны маёнтак.

Разам са мною працавалі паляк Алешчук з Белай-Падляшскай і трое ўкраінцаў з Тамашова. Мелі мы нашыўкі на вопратцы: палякі — вялікую сінюю літару „Р" на белым полі, а рускія — надпіс „Ost". У Клінгера даглядаў я коней, араў, сеяў. Пра коней трэба было моцна дбаць. У абедзенны перапынак коні адпачывалі, а гаспадар правяраў ці яны не перагрэты. У гаспадара было 20 кароў, але іх не выганялі на пашу. Увесь час стаялі яны ў аборы і толькі давозілі ім корм. Абора была салідная, цёплая і зімою мы спалі ў ёй. У нямецкіх дамах не палілі печак, толькі распальвалі пад кухняй, а нанач укладалі яны сабе пад пярыну рызінавыя грэлкі (тэрмафоры) і так грэліся.

На самым пачатку нашага знаходжання ў Нямеччыне мусілі мы падпісаць дакумент, у якім папярэджвалася, што за інтымныя зносіны з нямецкімі жанчынамі пагражае нам ссылка ў канцэнтрацыйны лагер. Аднаго паляка злавілі з немкай і за гэта яго публічна павесілі, а жанчыне загадалі насіць на шыі табліцу, на якой было апісана яе злачынства.

Баўэр атрымоўваў на ўсіх нас харчовыя талоны і гаспадыня варыла са-



*Анатоль Багацэвіч у Нямеччыне — лістапад 1942 года.*

бе і рабочым ежу. Нельга было ім калоць свіней. У поле выходзілі мы а сёмай гадзіне, а калі ішоў дождж, то коней трэба было ахоўваць брызянтоўкай.

Малазямельныя немцы аралі яшчэ валамі, але багатыя мелі ўжо такія прылады, якія ў нас з'явіліся многа гадоў пасля вайны (напрыклад: сеўнікі, капалкі, малатарні). У вёсцы быў адзін трактар на жалезных колах маркі „Ланц-Бульдог" називаны намі „лапатуном", які выкарыстоўваўся пераважна для прыводу малатарні ў рух. Прылады пакідалі на полі, а толькі на зіму звозілі іх на панадворак і змазвалі. Пасля года ведаў я ўжо нямецкую мову. У нядзелю можна было пайсці ў другую вёску наведаць знаёмых. Кожны дзень перад сном правяралі колькасны стан рабочых.

На прымусовых работах быў я тры гады, пакуль не вызвалілі нас рускія. Адразу ўзялі яны мужчын на зборны пункт і непалякаў накіравалі ў сваю армію. Рускія пачулі, што я размаўляю на беларускім дыялекце і, хаця я тлумачыўся, што я з Беластока, прызначылі мяне ў запасны полк. Служыў я ў савецкім войску больш года. Наш полк перавялі ў Вену (увесь час мы маршыравалі), потым дайшлі мы ў венгерскі горад Шопран, а затым у Ферхен-Кірхен і Ной-Фельдэн у Аўстрыі. У гэтай апошняй мясцовасці прыйшоў загад дэмабілізаваць салдат 1921 года нараджэння. 8 мая 1946 года забралі мае салдацкія дакументы. На радзіму трэба было вяртацца з Савецкага Саюза. У Брэсце спачатку не хацелі мяне пусціць у Польшчу, але ў канцы дазволілі. Вярнуўся я дадому пасля чатырох гадоў непрысутнасці.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Рэпрадукцыя аўтара*

# „Навучыўся радавацца чужой радасці..."

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

***(праця́г; пачатак у 46 н-ры за 1997 год)***

Прага, 28.08.1970 г.

Дарагі Максіме!

Тваё віншаванне з маім 70-годдзем, Твае добрыя сяброўскія словы, высокая і шчырая ацэнка працы, якой я прысвяціў амаль усё жыццё, моцна мяне парадавалі і ўлілі новыя сілы ў маё спрацаванае сэрца. Вялікае сардэчнае Табе дзякуй за гэта. Рыгор Раманавіч, напэўна, расказаў Табе, як шмат людзей успомніла маё 70-годдзе. А ад чэшскага музычнага фонду нават атрымаў ганаровую ўзнагароду за інтэрпрэтацыйную дзейнасць у галіне песні. Каб усім аддзячыцца, спяваю далей (хоць меньш з апошняга). Прыемна бачыць, што яшчэ даю людзям радасць. Шкада, што не чуюць мяне на Радзіме... З падзякай за віншаванні шлю Табе, тваім блізкім і ўсім, хто мяне ўспомніў, самыя сардэчныя прывітанні і найлепшыя пажаданні. Моцна абдымаю і цалую.

Твой Міхась Забэйда.

* * *

Прага, 26.03.1971 г.

Дарагі Максіме!

Хочацца напісаць Табе пару радкоў, каб падзякаваць за Твае „Лісткі календара" і за добрыя сяброўскія словы, якія Ты заўсёды знаходзіш для мяне, для мае скромнае працы. Гэтым разам яны мяне асабліва парадавалі, бо ўжо даўжэйшы час хварэю. Тэмпература 38—38,5. А ў маім веку ды з маім сэрцам невядома, чым усё можа скончыцца. „Лісткі" чытаю з вялікім зацікаўленнем. Успамінаю, перажываю, жыву з Табою... Горш сталася з маімі „лісткамі". Як ведаеш, у Празе працую з пачатку саракавога года. За гэты час наспяваў на магнітафонныя стужкі ў Пражскім радыё многа песень розных стыляў і розных народаў. Былі там і савецкія кампазітары: Шастаковіч, Кабалеўскі, Хачатуран, Шапорын, Туранкоў і інш. Прыйшоў жнівень 68-га года і... усё гэта сцерлі. Працу 30-ці год як карова языком злізала.

Ды не буду Табе аб гэтым пісаць. Маеш сваіх клопатаў больш, чым трэба. Галоўнае, каб паправілася Тваё здароўе! Тады знойдзецца час і пісаць. Ты яшчэ, браток, малады. А я мушу ўзяць таблетку (пілюльку) ды легчы, хоць хацелася б яшчэ пагаварыць з Табой.

Шлю самыя сардэчныя прывітанні Табе з сям'ёй, Рыгору Раманавічу ды ўсім супольным знаёмым.

Моцна абдымаю.

Твой

М. Забэйда

PS. Мо што патрабуеш з Прагі? Напішы, вельмі рад прышлю.

* * *

Дарагі Максіме!

Моцна мяне засмуціла вестка, што Ты цэлыя паўтары месяцы ляжаў хворы. Добра, што ўжо ходзіш. Паступова і сэрца перастане балець. Ты ж на цэлых 12 гадоў малодшы за мяне! А я, як бачыш, яшчэ жыву.

Вельмі шкадую, што мяне не было ў дома, калі Ты званіў з аэрадрома. Так прыемна было б пачуць Твой голас па тэлефону. Проста не верыцца, што ад першае сустрэчы прайшло 36 гадоў! Мне ўсё здаецца, што Ты, як і раней, малады. Ты заўсёды знаходзіш словы, якія чалавека парадуюць, падтрымаюць. Пішу Табе гэты ліст, бо хацеў бы Цябе таксама хоць трошкі парадаваць. Маю на ўвазе свой канцэрт, што адбыўся ўчора ў Багданчы. Скажу Табе шчыра, я не быў пэўны, што канцэрт давяду да канца, што вярнуся жывым у Прагу. Як-ніяк на днях мне стукнула 72!.. І вось вытрымаў. Хацелася напісаць Табе раней, каб успомніў мяне ў гэты вечар. (Я, браток, веру ва ўплыў, дзеянне добрае волі добрых людзей). А потым падумаў, што будзеш непакоіцца, ці жывым вярнуся, ды пашкадаваў Твайго сэрца. І добра зрабіў, што не пісаў. Вытрымаў, хоць цяжка было. Праграма, як заўсёды, была інтэрнацыянальная, вялікая, на цэлы вечар. І я не толькі спяваў, але да кожнае песні яшчэ гаварыў адпаведнае слова, што выклікала ў мяне яшчэ большае напружанне. Да таго, былі там і песні, якія спяваў першы раз у жыцці.

Сэрца пачало балець яшчэ перад канцэртам, а тут яшчэ пачало шумець (звінець) у галаве. „Трымайся", кажу сабе. Мабілізаваў усю сваю волю і... вытрымаў да канца. Нават быў змушаны некаторыя песні паўтараць і прыдаваць.

Асабліва моцнае ўражанне зрабіла наша калыханка.

Па канцэрце між слухачамі, якія прыйшлі дзякаваць, аказалася і адна беларуска з Мінска, якая жыве ў Чэхаславакіі даўжэйшы час. Сказала, што ніколі не спадзявалася, што тут пачуе родную песню. А вочы, як і многіх іншых, былі мокрыя.

31 ліпеня маю спяваць у Лугачовіцах, калі дажыву, зразумела. (Мая маці казала: „Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў").

Мне прыпамінаецца слаўны італьянскі спявак Бацісціні, які, кажуць, у 70 год выходзіў на сцэну з кіёчкам, але спяваў, як малады. Вось і я хутка буду хадзіць з кіёчкам. Псуюцца ўжо і ногі. Відаць, я не рыба, бо яна, кажуць, псуецца з галавы.

Прыемна, што нашаю песняю зацікавіліся тут і іншыя спевакі і звяртаюцца да мяне, каб пазычыў ноты, што я раблю ахвотна, бо нотаў нашых тут няма (не даходзяць).

Добрую справу робіць і плітка (пласцінка) з нашымі песнямі. Ці не прыслаць Табе, пакуль яшчэ ёсць, каб Ты мог яе каму-небудзь падарыць?

Моцна Цябе абдымаю. Жадаю Табе, Твайму „калгасу" і супольным знаёмым здароўя, шчасця і поспехаў у працы. Не забывай!

Шлю шчырыя прывітанні.

Міхась Забэйда.

Прага, 24.06.1972 г.

***(праця́г будзе)***

# Ніўскі скарб

Аднойчы ў „Ніву" прыехалі маладыя менскія пісьменнікі і журналісты. Паколькі гэта было пад вечар, у памяшканні шчыравала толькі Ніна Буйко, з Іванюковага роду з Новай Волі, — наводзіла парадак, як заўсёды скрупулёзна і рашуча, не даруючы ні адной пылінцы, ні адной плямцы.

Літаратары прадставіліся і папрасілі пакінуць інфармацыю. Ніна ўзяла лісток і запісала навіну рэдактару: хто прыехаў, адкуль, чаго хоча, дзе будзе... Мастакі слова тут і ахнулі:

— Божачкі! Яна ж піша па-беларуску!..

— І без памылак... І як хутка! І яна тут прыбірае?!

— Нам бы такую сакратарку!

— О не, нам бы такі скарб у секцыю прозы!

**(лук)**

# Парнасік

## Новы год

Год мінуў.
Прыбыло гадоў.
Жыццё дало
Нам, што змагло:
Радасці трохі,
Трохі знямогі.
Маем надзею,
Што будзе лепей:
Трохі багацця,
Крышачку шчасця,
Жыццё без хвароб
Хай у Новы год!

**Аўрора**

## Зямля

Зямля — адна з рэдкіх планет,
Дзе жыццё цягнецца
ад мільёнаў лет.
Ніхто не ў сілах гэтага палічыць,
Мо хіба часта „ваду ліць".
Мауляў: мы, вучоныя
ведаем дакладна,
Хаця падлікі іхнія часта марныя.
На Зямлі чыстая атмасфера
І Хрыстова вера.
Адно з другім спалучаецца
І наша сэрца радуецца
Таму, што на Зямлі
радзіўся Хрыстос
І збавенне нам прынёс.
Таму, што Зямля жывая
І нам усім дарагая.
Ёсць моры, акіяны,
Лясы, пустыні, саванны...
Вады намнога ёсць больш,
А гэта на лепш, не на горш.
Сонца з вады стварае воблакі,
хмары —
Даюць жыццё — нашы мары.
Дождж упадзе — ён неабходны
Прыродзе, звярам і чалавеку
такі родны.
На Зямлі ўсё размеркавана —
Богам даравана.
Усё залежыць ад чалавека
і яго волі,
І бяда, калі апынецца
ў д'яблавай няволі.
Тады срэбранікі стануць
даражэй ад сумлення,
Дарэмныя паклоны да Бога,
маленні.
Навошта вайна, турэмныя сцежкі?
Мы — народ беларускі, палескі.
Мы народ спакойны, не мяцежны,
Сваёй роднай мове
і гісторыі верны.
Мы вайны ніколі і нікому
не аб'яўлялі
І крыўды чужынцам
заўсёды даравалі.
І гэтым можам пахваліцца,
Што іншым народам
можа прысніцца.
Сярод нас няма бандытаў,
разбояў;
Толькі з цемрай можам
весці барацьбу боем.
Наша Беластоцкая зямліца —
Яна родная карміліца;
Не памяняю яе на амерыканскую
Ці азіяцкую, афрыканскую.
Каб там нават золата
ў гурбах ляжала,
Душы мае яно не апанавала б.
Кожны павінен зямлі
сваёй трымацца,
Яна — залатое багацце.

**Мікалай Панфілюк**

## Трэба шанаваць

Нашаю зямелькай
Трэба даражыці
І зімой, і летам
Яе шанаваці.
Бо наша зямелька,
Як у садзе кветка,
Для нас дарагая
І зімой і летам.
Аб нашай зямельцы
Трэба ўсім казаці
І ў кожну пару года
Яе шанаваці.
Каб нам не забыцца
Пра нашу зямельку,
Яе любіць заўсёды.
І зімой і ўлетку.
З ёю я абжыўся
Як з роднаю маці,
Ды зімой і ўлетку
Буду яе шанаваці
І буду прасіці
У Гаспода Бога,
Каб наша зямелька
Усім дала выгоду.
Каб мы весяліліс
Ды маліліс Богу
За нашу зямельку
І наша здароўе.

**Мікалай Лук'янюк**

## Жывём

Няхай нікога не абходзіць,
Хто як апранаецца і як ходзіць,

Бо кожны грошай няшмат мае,
І што зможа, тое і купляе.

Мы — „шэрая маса"?
Ці ж наша сэрца — адно „мяса"?

Кроў у нас чырвоная плыве.
Чалавек свядома хай жыве.

Скура цяпла патрабуе,
Язык — есці, што смакуе.

Адзін есць, каб жыць.
Іншы жыве, каб жаваць...

**Іда Кавалевіч**

---

З вялікім жалем паведамляем, што 9 студзеня 1998 года пасля працяглай хваробы, на 92 годзе жыцця адышла ад нас
**Ганна ПАНАСЮК**
Сям'і нябожчыцы, а таксама сястры Лідзіі і брату Мікалаю словы глыбокага спачування выказваюць Ірэна і Андрэй Гаўрылюкі з Ольштына.

---

# Наша пошта

**Вельміпаважаныя
Спадары і Спадарыні**

Перасылаю Вам у гэтым лісце банкавы чэк і прашу, калі ласка, аднавіць маю падпіску на тыднёвік „Ніва" на наступны — 1998 — год.

Я вельмі ўдзячна Вам за такое акуратнае і рэгулярнае прысыланне тыднёвіка. Кожны раз радуюся, як ён прыйдзе і прынясе мне весткі з роднай зямлі. Адчуваю сябе так, быццам бы сваяк або сябра напісаў мне ліст адтуль. Калі навасці добрыя, шчыра цешуся; і моцна сумую, калі кепскія.

Дапамажы Вам Божа ў Вашай прыгожай працы!

Заўсёды думаю аб той асобе, якая друкуе мой адрас, лепіць маркі і так прыгожа запакоўвае пляскаты рулён. Шчыра дзякую!

Добрых Вам святаў Каляд і ўсяго найлепшага ў 1998 годзе!

Merry Christmas and a Happy New Year!

З шчырай падзякай і з вялікай пашанай

**Галена Скурат**
**Канада**

**Ад рэдакцыі:** Шчыра дзякуем за прыгожы ліст і пажаданні. Прыміце, калі ласка, зычанні ўсяго найлепшага ў Новым годзе.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астронку! Ізноў, мабыць, падсцерагаюць мяне цяжкасці. Сніцца, быццам іду я па нейкай крутой, вузкай вулачцы. Іду пад гару, але яна не такая высокая. З аднаго і другога боку гэтай вулачкі стаяць самаходы: з правага боку — цэлы рад машын, а з левага — толькі адна. Але і тая адна машына мне перашкаджае, бо яна амаль загарадзіла праход, ледзь не прымыкае да правага раду машын. Што рабіць, як прайсці? Працінуцца немагчыма, а я мушу ісці далей.

І раптам мне ў галаву прыходзіць думка, што можна ж гэты самаход пересунуць, і тады я змагу прайсці. Дакранаюся да яго, і ён, быццам нейкая дзіцячая цацка, лёгка паддаецца і коціцца назад, аж туды, дзе няма машын з правага боку. Там ён затрымліваецца, і ўжо ёсць праход.

Але тут бачу, што з гары бяжыць да мяне сабака. Невялікі, такі сярэдні, але я яго вельмі перапужалася, бо ён імчаўся, як шалёны. Падбягае да мяне, і я бачу, што гэта вельмі мілы сабачка бежавага колеру. Такі, як у нашага суседа. Сабачка ласіцца да мяне, туліцца сваёй мордачкай, і мне вельмі прыемна. Чаго ж я яго так баялася?..

Што гэты сон значыць?

**Міля**

Міля! Я думаю, што нейкія праблемы будуць, але не такія вялікія. Сама ж бачыш, што нават і гара, пад якую ты ішла, не была высокая. А той вузкі праход ты хутка ліквідавала сваімі рукамі, перасоўваючы ў іншае месца машыну, якая табе перашкаджала ісці далей.

А асабліва за тое, што ўсё ў цябе пойдзе паспяхова, гаворыць той сабачка, які бег у тваім напрамку. Не быў ён злосны, як табе спачатку здалося, а вельмі мілы і ласіўся да цябе. Значыць, што ёсць у цябе адданы прыяцель, на якога заўсёды можаш разлічваць. Калі б сабака быў злосны, нападаў на цябе, абазначала б гэта, што маеш лютага ворага. **Астрон**

# Крыжаванка

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ■ | 2 | ■ | 3 | ■ | 4 | | 5 | | 6 | |
| 7 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 8 | | | | | |
| 9 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 10 | 11 | | 12 | | 13 |
| 14 | 15 | | 16 | | 17 | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 18 | | | | | | |
| 19 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 20 | | | | | | |
| 21 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |

**Гарызантальна:** 4. аб'ява аб тым, што ўсе білеты прададзены, 7. фільм Акіра Курасавы, 8. доўгая прыўзнятая прамова, 9. мука з падпражанага аўса, 10. алімпійскі горад у Японіі, 14. напітак старажытнагрэчаскіх багоў, 18. англійскі універсітэцкі горад, 19. частка тэрыторыі адной дзяржавы, акружаная тэрыторыяй другой дзяржавы, 20. выклікаюць браджэнне, 21. індыйскі этычны прынцып непрычыняння зла.

**Вертыкальна:** 1. памяшканне, у якім можна забяспечыцца распустай, спіртным або наркотыкамі, 2. волат, 3. вінная ягада, 4. аповесць Максіма Гарэцкага, 5. шарэнга, 6. правы прыток Лены, 11. асадак з вадкасці на дне пасудзіны, 12. племя аўстралійскіх абарыгенаў, якое жыло на Паўночнай тэрыторыі, 13. Іва, сербскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі за 1961 г., 15. кастрыраваны слуга пры гарэме, 16. ваенна-марская база на поўдні Францыі, 17. Віктар, беларускі музыколаг, член журы Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 49 нумара**

**Гарызантальна:** пістон, Утагава, Шанхай, Карпаты, чайная, анкета, наколка, Струма, Гарадок, Мостар.

**Вертыкальна:** Вуокса, Гаўрук, гарант, Пашыч, Сінай, Осака, Анкара, Нольдэ, Ямайка, нутро, езуіт, анагр.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

---

Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.
**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na II kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

**Фрашкі пра нашых**

## Тэлефон у „Ніву”

Пазваніў, не шкадаваў грошай.
А злосць аж душыла за горла.
Каб адчуваць сябе не найгоршым,
Паўтараў у трубку, з-пад Орлі:

— Не жычэм жадных
пісьмуф бялорускіх,
Бо літэр не знам, я не естэм рускі.
Я — поляк праваслаўны,
правы і лёяльны!
В дупэм мне поцалуйце,
кацапы нахальнэ!

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Ад сябе не ўцячэш.
* Жыццё прыгожае — пасля смерці!
* З дурным — весялей, з разумным — цікавей.
* Здзіўляе мяне адсутнасць пеўня ў спрэчцы, хто быў першы — яйка ці курыца?

**Пётр Байко**

# Ніўка




*Што такі здзіўлены?* Малюнак Паўліка КУБАЕЎСКАГА з Орлі

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Маладая жонка купляе мэблю для спальні. Калі даходзіць да выбару ложка, не можа вырашыць які купіць: дубовы ці сасновы?

— Прапаную вам купіць дубовы, — раіць прадавец. — У ім можаце спаць дваццаць гадоў і нічога не здарыцца.

— Калі так, дык выбіраю сасновы!

***

У гасцініцу прыходзіць сужонства і хоча зняць нумар.

— Гэта немагчыма — заяўляе парцье. — Усе пакоі ў нашай гасцініцы ўжо забраніраваны, астаўся толькі нумар для маладажонаў...

— А чым ён розніцца ад іншых?

— Няма ў ім тэлевізара і відэаапаратуры.

***

У рэстаране госць да афіцыянта:

— Ваша шампанскае нічога не вартае...

— Вы вельмі памыляецеся. Пачакайце рахунак!

***

У рэстаране сустракаюцца два сябры. Адзін з іх нядаўна ажаніўся і расказвае пра ход пасляшлюбнай ночы:

— Было нармальна: калі ўвайшлі ў спальню, дык я адразу распрануўся, каб баба не падумала, што яе саромлюся. Пасля даў ёй па мордзе, каб не падумала, што яе баюся. А наканец сам сябе задаволіў, каб баба не падумала, што без яе не магу абысціся.

***

Маладая пара дзень да шлюбу гіне ў аўтамабільнай катастрофе. У небе святы Пётра літуецца над нешчаслівцамі:

— Зраблю ўсё магчымае, каб хаця тут злучыць вас шлюбам!

Маладыя ўцешыліся. Цярпліва чакаюць шчаслівую падзею — год, другі, трэці... Урэшце пытаюць:

— Святы Пётра, ці вы забылі пра нас?

— Не, не забыў, толькі няма ў нас святароў.

***

Сярод сяброўак:

— Чула? Оля выходзіць замуж!

— Што ты скажаш!? А я ж нават не ведала, што яна зацяжарыла.

# Пажартаваў

На Новы год мы вырашылі сабрацца разам: я, мая сяброўка Алена, Змітрок і ягоная дзяўчына Зося. У Змітрака: ягоная хата на ўскраіне, халасцяк, ніхто не замінае. Святкуй хоць цэлы тыдзень!

Ну, зразумела, купілі шампанскага, гарэлкі, закусі рознай. Ёлку ўкутку стаіць. Уключылі тэлевізар. Паслухалі канцэрт. Дзяўчаты, ясна, пакрытыкавалі спявачак. За іхнія галасы, адзенне, манеру трымацца на сцэне.

Выпілі за стары год. Раз, другі... Потым Змітрок зірнуў на гадзіннік: палова дванаццатай. Тады ён падышоў да ўваходных дзвярэй, адчыніў іх ды гэтак і пакінуў.

— Чакаеш яшчэ каго? — здзівіліся Зося з Аленай.

— Чакаю, — сур'ёзна адказаў Змітрок. — Прадзядулю свайго. Ён у гэтай хаце яшчэ да 1917 года жыў. Дом у дзевятнаццатым стагоддзі пабудаваны. А майму бацьку ягоны бацька расказаў пра адзін выпадак.

— Які такі выпадак? — зацікавілася Зося.

— Неяк перад самым Новым годам мой продак выйшаў на хвілінку з хаты... Дзверы прасіў не зачыняць, каб святлей на двары было. Сказаў, без дзесяці дванаццаць вернецца.

— І што?

— А нічога, — Змітрок пазяхнуў. — Не вярнуўся ён болей. Так без яго той Новы год і сустракалі... Увогуле не вярнуўся. Потым і на двары шукалі, і гарадавому паведамілі... Ніхто нічога не бачыў, ніхто нічога не чуў, ніхто нічога не ведаў...

— Неверагодна! — усклікнула Алена.

— Загадкавы выпадак, — мовіла Зося. — Якое яму можа быць тлумачэнне?

— Мо НЛА у той час побач праляталў? Ці дамавік пажартаваў? — спытала Алена.

— Невядома, — уздыхнуў Змітрок. — Аднак з таго часу ў нашай сям'і з'явілася традыцыя: заўсёды на Новы год з паловы дванаццатай да дванаццаці дзверы расчыняць, — і Змітрок разліў гарэлку па шкаліках. — Ну, добра, давайце кульнём яшчэ за стары год. А то хутка трэба піць за новы...

І тут раптам пад нечымі нагамі рыпнуў снег, грукнулі весніцы, і мы ўбачылі, як па сцежцы да ганка кіруе высокая постаць. Твару не відаць, але добра бачны шырокая барада, кажух да пят.

— Хм, хм, — кашлянуў незнаёмы і спыніўся метрах у трох ад ганка.

— Прадзядуля вярнуўся! — радасна ўскрыкнуў Змітрок і кінуўся да дзвярэй.

— А-а-а... — выдыхнула Зося і бездапаможна асунулася на падлогу.

Дзіка закрычала Алена, хаваючыся за маю спіну.

— Хэлоў, казлы! З Новым годам! — уваліўся ў хату наш сябар Міхась. Услед за ім бегла па сцяжынцы Рыта, ягоная сяброўка. — Я не спазніўся? Дакладна без дзесяці дванаццаць, як ты і прасіў. — Заўважыў беспрытомную Зосю. — Што здарылася?

Мы кінуліся ратаваць Зосю.

**Уладысь Цвяткоў**

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Мо ты будзеш з мяне смяяцца, але я хачу табе прызнацца, што, калі б не ты, дык ужо невядома што са мной было б. Павер мне!

Я жыву на вёсцы з бацькамі. Бацькі мае ўжо старэнькія, ды і мне ўжо больш сарака. Няма надзеі, што нейкая дзяўчына захоча прыйсці да мяне на гаспадарку, тым больш, што ад вёскі да нашага хутара яшчэ паўтары кіламетра. Жывем, можна сказаць, у глушы. Найбліжэйшы і найдаражэйшы нам прыяцель — гэта прырода. Ваколіца цудоўная, харастсовo. Выйдзеш у поле араць — і то прыемна глянуць. І сад у нас вялікі, і машыны такія-сякія ёсць, але што ж, калі не змог я ажаніцца, а пра тое, каб ад зямлі адарваўца, бацькоў пакінуць, у горад уцячы, нават і не думаў. Я ж быў адзіным дзіцём у бацькоў.

Вядома, бракуе мне кампаніі, сяброў-аднагодкаў і сяброваk. Іх наогул на вёсцы штораз менш. І думкі пра маладое мне не чужыя. Яшчэ ж я не зусім скапцанеў. Дык, калі бяру ў рукі „Ніву”, адразу кідаюся да „Сардэчных тайнаў”. Прачытаю — і адразу адчуваю сябе інакш. На душы робіцца лягчэй, я ўжо не такі адзінокі і забыты людзьмі. Ведаю тады, што не толькі ў мяне ёсць праблемы, пачынаю разумець, што ў кожнага чалавека яны іншыя.

Часамі мне здаецца, што гэта рубрыка створана спецыяльна для мяне. Пачытаю-пачытаю яе — і бачу сябе ў кругу такіх жа звычайных людзей з іх звычайнымі справамі і незвычайнымі лёсамі. І ўжо мне весялей. А няраз (кажу табе па сакрэту), то і дрыжыкі пройдуць па целе. Пройдуць — і на сэрцы стане цёпла. Бо я табе скажу, што я ўсё гэта па-сапраўднаму перажываю. А калі чытаю „Тайны”, дык амаль заўсёды атаясамліваюся з аўтарам пісьма і, пакуль не дачытаю яго да канца, непакоюся, што ты, Сэрцайка, яму адкажаш, параіш. Не смяешся яшчэ з мяне, га?

Бо яшчэ я хачу сказаць, што саграваеш ты не толькі маё немаладое ўжо сэрца, але і некаторых людзей з вёскі. А наогул дык тваю рубрыку чытаюць усе — ад малога да старога. Я чуў нават, як адна маці сварылася за гэта на сваю дачку, якая ходзіць яшчэ ў падставоўку. І, няведзь за што, цябе, Сэрцайка, лаяла. Што нібы сораму ты не маеш, праваакуючы чытачоў, каб пісалі пра „сексоўныя” справы. А што гэта, не жыццё можа? Я ёй тады так і сказаў, а яна як узбурылася... Такі самы і ты, кажа. Нябось, каб быў іншы, дык даўно жаніўся б. А то начытаецца і тады сам не ведае, чаго хоча!

А я хачу чытаць твае парады. І, прашу цябе, давай рэчы памацней! Нічога не выкрэслівай з лістоў, нават калі будуць у іх нейкія дробныя вульгарызмы. У жыцці ж бывае не інакш: адзін больш вульгарны, другі — далікатны, быццам паненка. Я дык люблю чытаць, калі лісты больш шчырыя, незавуаляваныя. Бо мне часамі здаецца, што ты моцна іх папраўляеш, стараючыся абмінаць больш „адкрытыя” сцэнкі. А іншыя газеты гэтага не баяцца. Ці ж „Ніва” мае быць такая баязлівая?!

**Міхась**

Міхась, даражэнькі! Ніўская рубрыка „Сардэчныя тайны” і так дзяўчыны табе не заменіць. А нават калі б і змагла гэта зрабіць у нейкай ступені, дык табе ж і гаспадыня патрэбная. Маці ж твая ўжо, пэўна, бабулька.

Адказваючы на нялёгкія пытанні чытачоў і чытачак, мне хацелася б пабудзіць маладых людзей да нейкай актыўнасці ў іх эратычным жыцці; каб не было яно шэрае і манатоннае, бо манатонія можа забіць каханне. Кахаць таксама трэба ўмець.

А ты, Міхасёк, здаецца, хацеў бы ў ложку пачытаць „Тайны”, каб па целе пайшлі дрыжыкі і на сэрцы зрабілася цёпла, а тады павярнуцца да сцяны і смачна заснуць...

Не, братка! На такое то мы не пойдзем! Цешыць нас, праўда, што з намі адчуваеш сябе лепш, што знікае ў цябе пачуццё адзіноцтва, калі пачытаеш нашу рубрыку, але гэта не звальняе цябе ад кантактаў з людзьмі. Памятай: хто шукае, той знойдзе.

**Сэрцайка**